Віктар
ШНІП

# СОНЦА,
# ЯКОЕ НЕ ЗАХОДЗІЦЬ

# МУЗЫКА,
# ЯКАЯ НЕ ЗАЦІХАЕ

# СЦЯЖЫНЫ,
# ЯКІЯ НЕ ЗАБЫВАЮЦЦА

# РАСА,
# ЯКАЯ НЕ ВЫСЫХАЕ

Белае,
чорнае
і залатое

Кніга паэзіі

Мінск
«Мастацкая
літаратура»

2020

## **Кніга**

15. 06. 2017

напачатку было Слова
і Слова стала Кнігай
як раніца становіцца днём
крыніца ракой
і цячэ па белым свеце
у якім жыве Слова
якое стане Кнігай
і ты чытаеш Кнігу
і Слова душу напаўняе
як сонца наш свет
дзе Кніга гэта святло
у якім наша мінулае
сённяшні дзень і будучыня
у якой будзе Кніга
як сцяжына дарога
да Веры Надзеі Кахання
да белага Храма
дзе жыве Любоў
Кніга гэта люстэрка
дзе кожны бачыць сябе
галоўным героем
Кніга гэта паветра
якім дыхае душа
Кніга гэта агонь
якім саграецца сэрца
Кніга гэта неба
у якім жыве натхненне
Кніга гэта каўчэг
які плыве да зямлі
дзе чакае радасць
Кніга гэта планета
на якой існуе жыццё
створанае намі
і ты любіш Кнігу
і ты сяброўеш з Кнігай
дзе ніткамі сказаў
мы прышытыя да вечнасці
у якой жыве Слова
як сонца
якое не заходзіць

Сонца,
якое
не
заходзіць

## **Сонца Францішка Скарыны (каля 1490—1551)**

7. 04. 2016

з белых бялюткіх снягоў
як з пены тутэйшага мора
сонца ўзышло над Полацкам
і раптам чарнець пачало
як вугаль
як чорная кропка
прыканцы сказа
як прыканцы свету
свету дзе цябе не было
і ты нарадзіўся
і сонца зноў засвяцілася
як шлях у Заўтра
і стала светла
і ў Полацку
і ў Вялікім Княстве
і маліліся людзі
і звінелі званы
паўтараючы тваё імя
Францішак Францішак Францішак
і ляцелі анёлы
і ляцелі пчолы
а ты глядзеў у неба
і бачыў роднае неба
у якім жыве Бог
які стварыў зямлю
і ўсё жывое на зямлі
якой ты ідзеш з Полацка
несучы ў сэрцы сонца
якое было і будзе
і ў Вільні і ў Празе
і літары складуцца ў словы
і словы складуцца ў сказы
і будзе першая кніга
якую ты надрукуеш
і ты ідзеш па Еўропе
малады і прыгожы
як вой які абараняе
зямлю дзе магілы продкаў
дзе яму вераць дзе яго любяць
дзе яго заўсёды чакаюць

і ў кожным следзе тваім
застаецца святло жывое
якое не зарасце травой
і не засыплецца пылам
і ў цябе наперадзе Беларусь
пра якую ты не марыш
але якая абавязкова будзе
як свята пасля будняў
дзень пасля ночы
вясна пасля зімы
і сонца будзе тваё
і сёння і заўтра і заўсёды
як родная зямля пад нагамі
тых хто ідзе з дому
і тых хто вяртаецца
ведаючы тваё імя
як песню як малітву
як сонца

**Зямля Фердынанда Рушчыца (10.12.1870–30.10.1936)**

14. 12. 2015

у снежні вечаровая зорка
над маёнткам Багданава
высока ў небе
агеньчыкам свечкі каляднай
свеціцца свеціцца адзінока
але ты не адзінокі адзінокі
выходзячы з дома старога
у свет
ты не эмігрант
ты мастак
у якога ёсць Зямля
і спыняючыся каля касцёла
ты думаеш думаеш пра мінулае
дзе старыя яблыні
і лясны ручай
чакаюць чакаюць цябе
як вясну
якая прыходзіць заўсёды
каб ворыва чарнела
як крылы чорных буслоў
што не адлятаюць

Сонца, якое не заходзіць

з нашых зімовых казак
калі ідзе вайна еўрапейская
як гаспадыня
і Крэўскі замак крывавіцца
крывавіцца цэглай чырвонай
і млын узімку
увесь заледзянелы
нібы крышталёвы стаіць
і апошні снег як попел з каміна
у якім ты паліў самоту
сыплецца сыплецца сыплецца
і бляклае сонца
асвятляе спакой у пакоі бабулі
і вясна пачынаецца пачынаецца
і ў карчме пры дарозе
гарыць святло святло святло
а вандроўнік едзе на кані
з добрымі весткамі
з Вільні і Варшавы
куды імкнешся ў думках
але ты тут у Багданаве
з мальбертам як з ветразем
плывеш плывеш плывеш
у заўтрашні заўтрашні дзень
дзе красуюць красуюць мальвы
дзе лета ўладарыць
дзе пуня і азярод
чакаюць чакаюць багатых дажынак
а ты ідзеш ідзеш да святых камянёў
і сам ты як святы
і воблачнае неба з месяцам
высока над табою ў Багданаве
і вецер восеньскі шэпча шэпча шэпча
пра хвалі акіянскія
дзе плыве і плыве карабель
і ты стаіш стаіш на ім
як на краі свету
і малюеш малюеш залаты пакой
дзе святло як залатая вада
і малюеш свяцілішча

і вулкі старыя Вільні
якія памятаюць цябе
як памятаеш ты сваю зямлю
дзе перад зімой старое гняздо
стаіць непахісна
прадзьмутае вятрамі вятрамі вятрамі
дзе дрэвы адзінокія як паходні
якія не згасаюць бо яны тутэйшыя
бо яны запаленыя табой
пад небам у белых аблоках
дзе сінеюць прагалы
як будучы лёд лёд лёд
на лясных ручаінах
з якіх ты піў піў жывую ваду
і натхненне
і цяпер на высокім узгорку
узвышаецца узвышаецца
твой крыж
сярод крыжоў родных і вечных
як Зямля
над якой вечаровая зорка
свечка ў тваім новым доме

**Ліпень Янкі Купалы (7.07.1882— 28.06.1942)**

25—30. 04. 2012

ад рук матуліных
і ад калыскі
у ліпені пачалася дарога Паэта
ад сэрца да сэрца
ад Беларусі і да Беларусі
па свеце белым
па квеце белым
па снезе белым
дзе чорнага заўсёды ставала
як чорнай зямлі
чорнага дыму
чорных груганоў
і чырвонай крыві
у свеце белым
у квеце белым
у снезе белым
і ў Беларусі

у Вязынцы хата Янкі Купалы
беларускі каўчэг
які плыве па траве па вечнасці
асвятляючы шлях да Беларусі

збіраюць пчолы мёд
тутэйшае золата
якое і ў вершах Янкі Купалы
заўсёды было і будзе
як Беларусь

у Вязынцы Купалле
і плывуць па рацэ вяночкі
як нізкі вершаў
якія не паспеў запісаць Янка Купала

усе беларускія дарогі
вядуць у Вязынку
як у нашу Мекку
і я іду да Янкі Купалы сцежкаю
што ў траве не знікла
і гэтая сцежка
ніколі не знікне як вечнасць
дзе нас чакае Янка Купала
наш Прарок

на лузе копы сена
шаломы тутэйшых вояў
якіх нідзе не відаць
але яны ёсць і яны гатовыя
бараніць родную зямлю
як заклікаў Янка Купала

у купалаўскім садзе
светла ад яблыкаў
якія створаныя сонцам
і беларускай зямлёю
у купалаўскім садзе
светла ад вершаў
створаных Янкам Купалам

душой і крывёю
купалаўскія ліпы
і Купалавы творы
трымаюць неба над Вязынкай
і над Беларуссю

**Лістапад Якуба Коласа (3.11.1882—13.08.1956)**

19—21. 09. 2012

у засценку Акінчыцы
калі бярозы дубы і ліпы
трымалі пагоднае неба
над разлівам залатым лістоты
як над пялёсткамі сонца
самотнага і тутэйшага
пачаўся дзень Якуба Коласа
і ягоны шлях бясконцы
як жыццё беларусаў
у якіх залатыя рукі
і залатыя сэрцы
ад якіх заўсёды светла
было ёсць і будзе
у белым свеце
і ў нашай Беларусі

свеціцца сузор'е вокнаў
хаты вясковай
і ў лістападзе не губляюцца
сцяжыны лясныя
якімі прыходзяць ваўкі
паслухаць калыханкі
і малітвы людскія
і голас немаўляці
якое нарадзілася трэцяга лістапада

на хвалях Нёмана
чаўны і лістота
плывуць у вечнасць
праз лістапад і Беларусь
а вада ў Нёмане
як мёд васільковы
у якім неба як казкі жыцця
такое блізкае і роднае

дзе клёкат бусліны
і спеў жаўруковы
пераплятаюцца і ў вершах застаюцца
як малітвы ў Храмах
на якіх крыжы
мячамі беларускіх вояў
што за волю змагаліся
і каб Прарок нарадзіўся

яблыкі ў траве сівой
золата ў срэбры
ляжаць у бацькоўскім садзе
дзе праз чорныя галіны дрэў
можна пабачыць шэрае неба
дзе лятуць журавы
мары пра волю
мроі пра сваю зямлю
дзе ростаняў не будзе
а толькі сустрэчы светлыя
сустрэчы пяра з паперай чыстаю

дубы каля Нёмана вежы
з якіх відаць увесь белы свет
і Беларусь
дзе жыў жыве і будзе жыць
Сымон-музыка
і ягоная адвечная песня
дзе ў кожным слове ёсць Бог
і ёсць Беларусь
ад якой мы ідзем
праз завеі спякоту дажджы
да Беларусі
да сонца
якое ніколі не заходзіць

...і пройдуць сотні гадоў
і ў кожным годзе будзе лістапад
і ў кожным лістападзе
будзе лістапад Якуба Коласа
які пачаўся ў засценку Акінчыцы

у разліве залатой лістоты
у пялёстках беларускага сонца
якое жыве ў творах Якуба Коласа
дзе родны кут мілы
і дзе рыбакова хата
на беразе Нёмана
як на краі свету
слухае песні-жальбы
адзінокіх зорак
якія падаючы ў золата лістоты
абуджаюць сонца
што заглядваючы і ў наша ваконца
і ў нашы сэрцы
асвятляе шлях у Беларусь
пра якую марыў Якуб Колас

**Вандраванне з Янкам Маўрам (10.05.1883–3.08.1971)**

6. 05. 2018

ізноў на Палессі разводдзе
і Палескія рабінзоны
Мірон і Віктар
і я валожынскі хлопец
разам з Янкам Маўрам плывем
у чоўне
у Каўчэгу
што створаны Янкам Маўрам
з родных слоў з любові і казак
плывем на востраў
пра які яшчэ нічога не ведаем
але ведаем што ён ёсць
як гэты свет
дзе ёсць мы наша мінулае і будучае
і неба над намі светлае
як нашы думкі далягляды
і птушкі лятуць над намі
як у райскай краіне
прыдуманай
і якая ёсць
як шлях з цемры
з якой чалавек ідзе
а мы плывем у чоўне
па вадзе вясновай

па небе
дзе ўдзень сонца
нікуды не спяшаецца
бо яно вандруе з намі
дзе ўночы Млечны Шлях
тысячы залатых рыбак
што чакаюць каб мы іх злавілі
і яны здзейсняць усё
што мы пажадаем
не толькі тады
калі на Палессі разводдзе
і калі мы плывем у чоўне
з Янкам Маўрам
на востраў дзе жывуць зубры
дзе ўжо няма кантрабандыстаў
а ёсць Храм
у якім збіраюцца ўсе рабінзоны
а не толькі Палескія
каб усё добрае прымроенае
стала явай
як гэты дзень
дзе мы жывем
і дзе жыве Янка Маўр

**Сусвет Максіма Багдановіча (9.12.1891—25.05.1917)**

25. 11.— 4. 12. 2016

упала з нябёсаў сняжынка
белы васілёк з вянка
што ў руках твайго анёла
якому ты стварыў сусвет
у якім у цэнтры Паэзія
як сонца

упала з нябёсаў сняжынка
з верша твайго рыфма
і верш стаў белым
як воблака
завіруха
у вулках старой Вільні
якой ты ідзеш
да касцёла Святой Ганны
каб пазбыцца

горычы цяжкіх дум
упала з нябёсаў сняжынка
белая пушынка з вішні
белы аганёк
якому было сумна ў нябёсах
без цябе

а ў лесе маркотны лясун слухае
як стары вадзянік у рацэ
суцяшае русалак
што ў срэбных сецях
заблыталі свае косы
і цяпер чакаюць выратавання
ад самотнага Паэта
і ты ідзеш да русалак
малады і закаханы
каб вызваліць іхнія косы
і сказаць маркотнаму лесуну
што жыццё цудоўнае
як лес сасновы
дзе кувае бясконца зязюля

і ляцім мы з табой сярод зорак
і ў кожнага з нас ёсць свая Вераніка
і свой цвяток радзімы васілька
і Вільня і песні жальбы і гневу
і вера што прыйдзе вясна
і мы не цёмныя і не сляпыя
і наш Страцім-лебедзь
мае нашчадкаў
і плыве праз вечнасць наш Карабель
у якім заўсёды будзеш ты
і наш сусвет
дзе Вострая Брама святая
дзе ваякі на грозных канях
не даюць нам чужынцамі быць
і ніколі іх анікому
не разбіць не спыніць не стрымаць
і зорка Венера ўзыходзіць
высока над роднай зямлёю

каб ты бачыў яе і ў расстанні
каб ты бачыў яе
і ў далёкім краі
калі дням не пралятаць
залатымі агнямі
ля сіняй бухты
як на краі свету
на краі твайго жыцця
якое вечнае
як зорка Венера
як Беларусь

## Душа Максіма Гарэцкага (18.02.1893—20.03.1939)

20—25. 12. 2017

паміж лясоў дрымоткіх
засыпаных снегам
як паміж белых аблокаў
у вёсцы Малая Багацькаўка
дзе найвялікшае багацце
людскія душы
у якіх жыве дабрыня
пад саламянай страхою
пад промнямі тутэйшага сонца
у хаце дзе гарэла лучына
і дзе праз маленькія вакенцы
на адну шыбу
можна было бачыць белы свет
нарадзіўся Максім

і слухаючы казкі дзядзіны Хрысцёны
і ціхія песні матулі
Максім захацеў пайсці ў людзі
каб адкрыць для сябе родны край
каб спяваць і граць на скрыпцы
і на дудках-жалейках
і быць беларусам

і пайшоў Максім у людзі
і душа яго напаўнялася
шумам травы на курганах
передзвонам званоў на званіцах
яскаркамі вогнішчаў

каля якіх грэліся бесхацінцы
з песнямі і плачам
смехам і малітвамі
і дымам і чырвоным пылам
імперыялістычнай вайны
у цэнтры Еўропы
на крыжы еўрапейскіх дарог
дзе гаспадарылі агонь і вецер
раскідваючы па свеце
жывых і мёртвых
белых і чырвоных

і як трымаецца
сонца за неба
так Максім трымаўся
душой і сэрцам
за роднае і вечнае
і ведаў шлях сваёй душы
да вольнай Беларусі
дзе чырвоныя ружы
на белым снезе
не будуць крывёю
і ў кожнага чалавека
будзе адна душа
як адна Беларусь

**Нарач Максіма Танка (17.09.1912—7.08.1995)**

23. 03. 2012

золата поўні на вадзе нарачанскай
сцяжынай вугровай
і ты ідзеш гэтай сцяжынаю
у Саргасава мора
каб сказаць вуграм пара вяртацца

у кропельках расы
дзе сонца начавала
ты бачыш нарачанскіх анёлаў
пра якіх ведаеш толькі ты
бо яны прыляцелі з тваіх вершаў

Сонца, якое не заходзіць

галавешкі ў вогнішчы
залатыя зліткі

якімі ты заплаціў нарачанскаму вечару
за добры настрой і сяброў

белыя лебедзі белыя вершы
жывуць на Нарачы
і толькі табе давяраюць
белыя вершы белыя лебедзі
пачуць дыханне сваё і вечнасці

плывеш Нараччу ў чоўне
праз туман праз райскі сон
што сніцца Богу

сосны калоны беларускага Храма
які ты стварыў з вершаў
і калі ты пайшоў у вечнасць
над Нараччу ў Храме тваім загучала
і сёння гучыць твая «Ave Maria»

вецер замёў сцяжыну да Нарачы
лісцем лісткамі твайго календара
што выпаў з тваіх рук
як камень жалеза золата
як хвалі Нарачы

**Жнівень Янкі Брыля (4.08.1917–25.07.2006)**

21. 06. 2017

тваё жніво пачалося ля мора
далёка ад роднай зямлі
зямлі дзе птушкі і гнёзды
чакалі цябе
і нёманскія казкі
у затоках рачных
жылі ў гарлачыках белых
як перліны ў ракавінках
і чакалі цябе

і ты прыехаў
і ў Забалацці стала днець
і ў золак убачаны здалёк
ты сыпануў жменю сонечных промняў
як спелых каласоў

і асвяціліся
сцежкі дарогі прастор
і сівыя валуны і курганне
і рэшткі замкаў княства
Вялікага Княства Любові
і сонца ўзышло высока
над мілым Загор'ем
і сонца было тваім
як маміна песня
бацькава слова
дзедава малітва

і ты слухаў
вечнасць
у пошуме траваў і дрэваў
і кожны твой жнівень
быў Храмам
у якім твае вітражы
створаныя з любові і жалю
нагадвалі ўсім
што ёсць Вера Надзея Любоў
і Каханне
і сірочы хлеб

і вераснёвая рунь
затапляла твой свет
якім ты ідзеш
і маеш акраец хлеба
каб усіх пакарміць
і даць Слова
якое было ёсць і будзе
як жнівень
калі ты пачуў
крык чаек над морам
далёка ад роднай зямлі
дзе цябе ўжо чакалі
і птушкі
і гнёзды
і нёманскія казкі
і людзі

**Жаўранак Пімена Панчанкі (23.08.1917–2.04.1995)**

4. 08. 2017

і ўзляцеў жаўранак
над краем паэтаў
і ты пабуджаны крыкам сойкі
пры святле маланак
выйшаў з дому
каля якога сінія касачы
і падняў на памяць горкі жолуд
з зямлі якая ў цябе адна
і ты выйшаў каб напісаць
паэму сораму і гневу
і кнігу вандровак і любові
і перад табою былі
тысяча небасхілаў
і высокі бераг
з якога ты пабачыў
як лясныя воблакі
плывуць
да станцыі далёкай
дзе спыніўся
вячэрні цягнік
які чакае цябе
і твайго жаўранка
пакуль ты будзеш ісці
праз свой дзень
які не скончыцца нават тады
калі скончыцца век
і ты будзеш ісці
праз гарачыя вятры
праз снежань
праз неспакой
з маўклівай малітвай
і будзе з табою
і вера і вернасць і вечнасць
і жытнёвы звон
у тваёй душы як у Храме
будзе паўтараць адказ
на пытанне
дзе начуе жаўранак
і ты сядзеш у вячэрні цягнік
і паедзеш па Млечным Шляху

і будзе з табою жаўранак
як і Радзіма
у якой ты ёсць і будзеш
якая цяпер і заўсёды
будзе краем паэтаў
дзе жывуць жаўранкі
якія ведаюць
дзе ім начаваць

**У галерэі Леаніда Шчамялёва (н. 5.02.1923)**

29. 11. 2014

карціны вокны
у свет дзе спыніўся час
як снег які ўпаў на зямлю
дзе неба адлюстроўваецца ў вадзе
а вада адлюстроўваецца ў небе
куды ўрастаюць крыжы на Храмах
як малітвы што сталіся крыжамі

і хлеб на стале
адна з чарапах
на якіх трымаецца зямля
дзе чорныя пляшкі з вінам
чорныя свечкі
якія чакаюць свайго часу
як аголеная дзяўчына
на белай прасціне
як на прыстані з назвай «Каханне»
куды вядуць усе дарогі
а тры сланечнікі сумуюць
бо іх пакінуў чацвёрты
і знік сярод чорных дрэў
чорных калон
яшчэ недабудаванага палаца
куды на конях едуць людзі
не палохаючы варон на снезе
праз які плыве човен

Сонца, якое не заходзіць

і стаяць пад чорнымі парасонамі
тры мужчыны
і чакаюць нас
як з мора пагоды

**Чэрвень Васіля Быкава (19.06.1924–22.06.2003)**

19. 06. 2014

быў чэрвень ад макаў чырвоны
а неба было белым як палатно
дзе можна намаляваць сонца
калі сонца няма над зямлёй
і ты намаляваў сонца
каб кожны дажыў да світання
якое ўсе чакалі і чакаюць
нягледзячы на знак бяды

акопамі нібы павуцінай
была аплецена зямля
дзе гаспадарылі воўчыя зграі
і ў полымі знікала роднае
а ты ішоў праз полымя
каб з праклятай вышыні
дзе мёртвым не баліць
пабачыць свой чэрвень
і чорныя ляды
і жоўты пясочак
і доўгую дарогу дадому

чэрвень прыходзіць
чакаеш яго ці не чакаеш
чэрвень як нечаканы матыль
залятаючы ў хату праз фортку
залятае табе ў сэрца
і трапечацца там і жыве
успамінамі пра лета
дзе сонца было і аблокі
як намаляваныя табой
на беразе вечнасці
дзе чаўны як твае разгорнутыя кнігі
дзе твае кнігі як чаўны

і сёння ў нас ёсць твой чэрвень
дзе стромкія бярозы
трымаюць неба над лецішчам
у якім чуюцца твае крокі
тваё дыханне твае словы
і аркушы белай паперы

аркушы белага неба
у якім схаваліся твае думкі
пра чэрвень і пра нас

і новы чэрвень пачнецца
і прачнецца той хто народзіцца
на доўгай дарозе дадому

**Сосны Івана Навуменкі (16.02.1925–17.12.2006)**

1. 11. 2015

сосны каранямі трымаюцца за зямлю
а зямля трымаецца за сосны
якія растуць пры дарозе
што вядзе ў Васілевічы
дзе ў сям'і чыгуначніка
нарадзіўся хлопчык
які вырасце
будзе слухаць вецер у соснах
і чуць водгулле далёкіх вёснаў
дзе верасы на выжарынах
у смутку белых начэй
пад асеннія мелодыі
і замець жаўталісця
як птушкі між маланак
будуць нагадваць
пра вечнае і роднае
што знікаючы не знікае
як сонца над той самай зямлёй
што засталася ў спадчыну
і будзе заўсёды спадчынай
дзе таполі юнацтва
апаленыя вайной
будуць разам з соснамі
стаяць пры дарозе
чакаючы цябе

вецер у соснах
вартуе шышкі як зоркі
якія падаючы на зямлю
як залатыя кроплі
тваіх дзён пражытых
не знікаюць у траве

стаіш ля сасны пры дарозе
ля свайго мінулага
ля сваёй будучыні
і ты гамоніш з сасной
і сасна цябе разумее
як Радзіма
якая адна
як сасна пры дарозе

сасна вечназялёная
вечна прыгожая
і яна цягнучыся ў неба
і сёння цягнецца да цябе

на Кальварыі ў Мінску
не растуць сосны
але яны там бываюць
прыносячы табе жывіцу
што стане бурштынам
кропелькамі сонца
калі ты захочаш
успамінаючы сасну пры дарозе
ля якой ты стаяў хлапчуком
як на краі свету

на белым снезе белыя сляды
белых анёлаў
якія ўсю ноч шукалі сонца
у белым свеце белым лесе
і ў белай хаце
знайшлі цябе
каб ты шукаў рыфмы
як чарапах у акіяне вечнасці
на якіх будзе трымацца
прыгажосць і родны край
дзе ёсць тваё Вечалле
якое ў лютым было пад лёдам
як пад небам якое спынілася
каб па ім да цябе прыйшлі
ласка і любоў вера і надзея

**Люты Рыгора Барадуліна (24.02.1935–2.03.2014)**

20—24. 06. 2014

каб ты пабачыў белы свет
і абудзіў у наваколлі
дарогу
да Беларусі
як музыку ў ледзяшах
на страсе роднай хаты
што стаіць на скраі лютага
на хутары Верасовачка
дзе цябе пацалавалі анёлы
думаючы пра Паэзію

вясновым святлом напаўняецца люты
і дзень разрастаецца
белай праталінай у чорнай начы
і святлом напаўняецца люты
як твая вялікая конаўка
цёплым малаком
што прынесла матуля
каб ты дома бываў часцей
не толькі ў свята пчалы
калі пад белай яблыняй грому
ты стаіш з каханай
як Адам і Ева
перад якімі неруш вечнасці

люты заўсёды пытаецца
ці добра абуты
і голас ягоны лёд
які трэскаецца на Вечаллі
дзе коўзаюцца вясёлыя зайцы
што мінулай восенню варылі піва
паводле рэцэпта Уладзіміра Караткевіча
каб перад халоднай зімой
і ў зайцаў было свята
і ты слухаеш люты
і запісваеш ягоную песню
у якой чуюцца родныя галасы
і молішся
трымаючы каля сэрца
Евангелле ад Мамы

твой люты адышоў
і ты адышоў да мамы
у час калі пачынаецца вясна
дзе рана ці позна будзе ўсё
рунець красавацьналівацца
і родны абсяг
не будзе змяшчацца ў вершах
паэтаў якія ідуць за табой
і босыя зоркі і анёлы
зноў спыняюцца каля тваёй хаты
нібы ля Карабля
якім ты прыплыў
да зямлі
дзе жыве Паэзія

**Тэатр Валянціна Ермаловіча (17.03.1935–22.12.2004)**

11. 10. 2014

на сцэне патухлая свечка
адзіная стрэлка
твайго тэатральнага гадзінніка
які спыніўся
паказваючы зімовае неба
з якога сыплецца снег
падранай паперай
на якой не з'явяцца словы
новага спектакля пра каханне
Людвікі і Фабіяна
і чуюцца крокі на сцэне
дзе нябачныя акторы
жывуць у сваіх ролях
у сваім свеце
які быў створаны табой
з Любові з Веры з Надзеі
і светла было
у тэатры як у сусвеце
пра які не ўсе ведалі
як мы не ведаем
ці існуе разумнае жыццё
на іншых планетах
і ты зноў запальваеш свечку
каб светла было
не толькі на сцэне

**Голас**
**Марыі**
**Захарэвіч**
**(н. 21.11.1936)**

19. 08. 2016

у апошнія дні лістапада
калі золата лятала ў паветры
і на срэбных нітках павуціны
яшчэ свяціліся каралі
бабінага лета
змоўклі птушкі
бо Ваш голас пачулі
у Мядзельскай вёсцы Навасёлкі
пад Нарачанскім небам
у якім безыменных зорак няма
і ніколі не будзе
бо мы не пагарэльцы
мы дзеці сонца
беларускага сонца
якое ніколі не заходзіць

і калі выходзіце на сцэну
у Вашым голасе чуецца
шум бяроз што пасадзіў бацька
каля роднай хаты
адкуль пачаліся Вашы дарогі
і чуецца плёскат хваляў нарачанскіх
што цалавалі Вам ногі
і чаек самотныя крыкі
у расе траў лугавых заціхаюць
бо косы звіняць
і на Храмах званы
і свечкі запаленыя Вамі
асвятляюць вечнасць
дзе жывуць нашы продкі
дзе стаяць нашы замкі
дзе нашы рыцары
бароняць нашу волю
і Ваш голас
які дапамагае сонцу
узыходзіць над Нараччу
і над Беларуссю

і адшумела навальніца
і паехала залатая карэта

праз лес
да людзей на балоце
каб перад вячэрай
традыцыйна сабраліся ўсе тутэйшыя
і паслухаўшы плач перапёлкі
пажадалі шчасця Паўлінцы
якая пайшла па свеце
несучы з сабой беларускае слова
як сэрца на далоні

і адказ на пытанне
аб чым баліць душа
чуецца ў пошуме жыта ў полі
у бруенні крынічнай вады
у шуганні купальскага полымя
і ў кожнай кветачцы ў Вашым садзе
і ў кожнай травінцы
каля сцяжын што вядуць за небакрай

і мы слухаем Ваш голас
як музыку
песню
малітву
і ў кожным Вашым слове
жыве Паэзія і Беларусь

**Сны Міхася Стральцова (14.02.1937–23.08.1987)**

4. 02. 2017

табе прысніўся верш
не верш а два радкі
як дзве паралельныя павуцінкі
што перасякаюцца
нібыта рыфмуюцца
у вечнасці
дзе цень ад вясла
ля ціхай прыстані
на тонкім лёдзе
як на небе

зноў грукоча суботні трамвай
па белым горадзе
дзе яшчэ нядаўна было

сена на асфальце
і людзі прачынаюцца
а табе сніцца музыка
у якой першы снег
ляціць і ляціць
як у снежным гадзінніку
які паказвае
шостую гадзіну ранішняй Паэзіі

і сніцца табе дрэва
не проста дрэва
ядлоўцавы куст
і скача на ім сініца
страсаючы снег як сон
з калючых галінак
з церняў
і ты ідзеш як лесавік
па лесе да сонца
як да вогнішча
і шэпчаш як малітву
мой свеце ясны

і ўсё было і нічога
і галубіная лёгкая пошта
прыносіла лісты і лістоту
і ты чытаў
і слухала неба
куды быў закручаны дым
з коміна роднай хаты
дзе сны ў падушках матуліных
самыя салодкія
якія ніколі ўжо не прысняцца
табе і сябрам
бо ўсё было

і ў тумане лугавым
стаіць як на выспе
на стозе бусел
і ты ідзеш да яго
малады і прыгожы

і плыве сонца
за тваёй спінай
як твой Каўчэг
напоўнены Паэзіяй

ізноў прысніўся верш
не верш адзін радок
кароткі як працяжнік
паміж датамі на помніку
і бясконцы
як твая сцежка
праз вечнасць

**Верасень і сакавік Анатоля Грачанікава (8.09.1938—7.03.1991)**

10—11. 09. 2018

сэрца тваё
было гадзіннікам твайго жыцця
які быў заведзены ў верасні
і разбіты ў сакавіку
паміж якімі за паўстагоддзя
ты змог прайсці
па сваёй магістралі
з вёскі Шарпілаўка
праз усю Беларусь
у Шарпілаўку
што заўсёды клікала да сябе
як кнігаўка
што просіць піць

ты ішоў няспешна
праз зімы
калі на фронце быў бацька
а маці ў партызанах
і цяпла ставала ў хаце
гарэў агонь
агонь веры і жыцця
у грубцы і ў вачах братоў тваіх
што нанач шчыльна зачынялі дзверы
але на ключ не замыкалі

ты ішоў
па травах росных і слёзных

праз туман ранішні
і дым вечаровы
па вуголлі халодным
і прыску гарачым
па апалай лістоце
па золаце беларускім
і ў небе былі над табою
зоры як спелыя яблыкі
у дзедавым садзе
і сонечны звон
выплываючы з-за курганоў
як з-за шаломаў
асвятляў грыбную пару
дзе сцяжыны вялі ў лясы
і дарослых і дзяцей
і кожны знаходзіў там
свае грыбныя мясціны
а ты знайшоў натхненне
і над Палескай зямлёй
узышла твая зорка
і твая вера
што пад маланкавым лязом
не загінуць мудрасць вечная лясоў
і ўрачыстасць воднай плыні
Сожа і Прыпяці
дзе на Купалле
плылі вяночкі з васількоў і рамонкаў
німбы святых
што сышлі на зямлю
і сталі палешукамі
і ты казаў ім
я вас люблю

ізноў прыходзіла восень
бакены зашываліся пад гаць
сінія асеннія асіннікі
у смузе марознай зіхцелі
і была ў іх журба неверагодная
саладжавы і гаркавы пах
ад якога слёзы ў вачах закіпалі

і дрэва на выспе
глядзела табе ўслед
калі ты ішоў у начную змену
каб на Круглай плошчы
не згасаў агонь
і ты чуў у цішы світальнай
як роднага краю стагналі магілы
і плакалі ціха крыжы
і балелі душа і сэрца
і нараджаліся вершы
і толькі спакоем зор гаёў і ніў
ты сам сябе лекаваў
ад самоты
і ў родным слове
ты чуў музыку нашай вечнасці
якая для цябе ніколі не скончыцца
як шлях ад верасня да сакавіка
у якім было слізка
і які быў
як шлях да Бога
твой шлях праз Паэзію

**Зніч**
**Галіны**
**Дзягілевай**
**(н. 23.04.1946)**

20—22. 04. 2017

першыя травы і першыя птушкі
і словы матуліны
і сонца прамень
твой Зніч запалілі
і вясна пачалася
і маленькі Анёлак
прыляцеў да цябе
каб на кросенцах жыцця
ткаліся сцежкі твае беларускія
у Краіне любай
дзе снежныя зімы
і досвіткі ціхія
дзе ўжо не трэба прасіць сонца
пачакай затрымайся
сонца прыходзіць і застаецца
як ты на сцэне
каб светла было заўсёды
каб ніхто не праклінаў

за тое што ты любіш усіх
як родных дзяцей
і твае «Віленскія мроі»
гэта нашыя мроі
бо ты нашая
бо ты не адзінокі птах
якому сняцца сны аб Беларусі
ты Зніч
які яднае птахаў
які свеціць і асвятляе
які дае жыццё роднаму слову
і ты прыпадаючы да нябёс
уздымаеш над намі Неба
як уздымалі для цябе
каб Беларусь была не краем свету
а Краінай
і ты выходзіш і выходзіш
на сцэну
ты Зніч
які не знікае
і не знікне нават тады
калі будзе і так светла
у Краіне светлай

## Сад Раісы Баравіковай (н. 11.05.1947)

28. 03. 2012

гэты Сад у цэнтры сусвету
і ў кожнай ягонай кветцы
пчолы
залатыя пацалункі
першага і апошняга кахання
якое было і будзе
як Сад у цэнтры сусвету
дзе ў шолаху лістоты
чуюцца малітвы і дождж
які не даляцеў да травы
дзе пад дрэвам для райскай птушкі
спіць змяя
якая сцеражэ самоту
дзе чорны павучок
кропка на павуціне сказа
сказанага першым подыхам восені

Сонца, якое не заходзіць

дзе золата яблыкаў
спакушае забыцца пра асцярогу
ізноўку закахацца і слухаць сэрца
на рамонкавым беразе кароткага лета
і адгукацца голасам жалейкі
на музыку радзівілаўскага матылька
што ў Садзе нібыта ў раі лётае
як тутэйшы анёлак
каля адзінокай паэткі
якая ў небе
у люстэрку для самотнай
бачыць бэз з вачыма Дон Жуана
якому ёсць месца ў Садзе
дзе нараджаюцца белыя вершы
як белыя ружы
як усмешка паэткі
у якой ёсць свой Сад
і гэты Сад у цэнтры сусвету

**Ветразь Міхася Шавыркіна (15.09.1947–5.07.2016)**

20. 09. 2017

ты любіў паўтараць Багдановіча
«Усе мы разам ляцім да зор...»
і цяпер гэта напісана
на тваім помніку
на тваім ветразі
і ты ўжо ведаеш
што Там
за небам
у якое ты глядзеў апошні раз
нібыта ў першы раз
прыехаўшы да Янкі Купалы
стоячы ў Ляўках на беразе ракі
на беразе свайго часу
і лістота сыпалася з бярозы
як у тваім лістотным гадзінніку
які паказваў сумную восень
у якой на жылках павуціны
у кропельках дажджу
жыла беларуская Паэзія
і плылі ў нябёсах аблокі
сівое сена з твайго маленства

на чаўнах праз немінучасць
і сядзеў на валуне крумкач
чорны манах
які вярнуўся з вандравання па свеце
і ніхто яго не сустрэў
апрача цябе
закаханага ў гэты край
у якім жылі жывуць і будуць жыць
роднае слова і песня
і будуць узлятаць буслы
высока над нашымі хатамі
і над нашымі ветразямі
каб сказаць табе
што не зараслі сцяжыны
да нашых замкаў і курганоў
і да нашых Паэтаў
і стоячы на беразе ракі
ты бачыў
як усе мы разам ляцім да зор
і жывыя і памерлыя і якія народзяцца
Тут у гэтым краі
дзе ты стаіш на беразе ракі
на беразе нашай будучыні
дзе на тваім ветразі напісана
«Усе мы разам ляцім да зор...»

**Год Валянціна Губарава ў Аляхновічах (н. 14.04.1948)**

13—18. 12. 2011

СТУДЗЕНЬ
студзень не застудзіць студні
дзе ў вадзе як у небе зоры
залатымі крупінкамі снегу
якія прыляцеў з краіны маленства
каб было светла
не толькі мастаку
які ідзе па гурбах
на гару дзе стаіць хата
у снезе як у аблоках
белых як фіранкі на вокнах
праз якія працэджваецца святло
і разліваецца Млечным Шляхам
перад табой

Сонца,
якое
не
заходзіць

ЛЮТЫ
вецер слізгае
па цвёрдым снезе
як па белай паперы
нябачны пэндзаль
у руках мастака
і белая фарба зімы
з чырвонай фарбай раніцы
перамешваецца
пераліваецца
і цені з дрэў спаўзаюць
і чапляючыся за сцябліны сухой травы
што тырчыць з-пад снегу
як антэны з падземнага княства
расцягваюцца
як капронавыя панчохі
на каленях у аляхновіцкіх дзяўчат
што клічуць і цябе на танцы
у клуб дзе ў гармоніку
ужо трапечацца вясна
як у горле пеўня
вада з капяжа
САКАВІК
сярод вазонаў на падваконні
руды кот
глядзіць як белы снег
чарнее і ператвараецца ў ваду
што цячэ вуліцаю сярод хат
як сярод драўляных караблёў
рэчышчам перасохлай ракі
і белыя гусі з двароў праз плот
высоўваюць жоўтыя дзюбы
што як першыя вясновыя
вясковыя кветкі
цешаць цябе
і ў тваіх слядах вада
спыняецца
як спыняецца час
але на хвілю
і сонца

як велікоднае яйка
выпаўшы з паўнюткага кошыка валачобніка
коціцца
па бязмежным небе
чыстым як бярозавік
ад тваёй хаты да суседняй
і радуюцца дзеці
пускаючы папяровы караблік
які ў тваім маленстве
яшчэ не патануў
КРАСАВІК
з першай травою купіны
вожыкі зялёныя
пад сонцам грэюцца
што як вялікая кропля
чырвонай фарбы
на тваім палатне
на якім як Бог
ты ствараеш свет
дзе па полі ў гумовіках
ідуць людзі а над імі жаўрукі
што нядаўна вярнуліся з выраю
як вясёлыя думкі
і каменьчыкі ў калюгах як каралі
Снежнай каралевы
якая растала як мроя
на ўзгрэтым узлессі
дзе красуюцца кураслепы
як каганцы
ад якіх святло
трапляючы ў тваю душу
абуджае верад натхнення
ТРАВЕНЬ
і ўжо тоне ў травах
і ў пене садовай квецені тутэйшая туга
і ў баразны кладзецца бульба
як золата хаваецца за пазуху
і чорныя як манахі гракі
ходзяць па ворыве
сярод курэй і пеўня

і ты глядзіш на гэта
як Калумб
які сышоў з карабля
на незнаёмай выспе
дзе ўжо існуе жыццё
ЧЭРВЕНЬ
сонца якое ўзыходзіць
раніцы ракавінка
якая раскрылася
а з яе вылецелі ружовыя матылі
і крышталёва-смарагдавыя стракозы
і цёплы вецер павеяў ад іх крылцаў
і пачаўся дзень
і зачмурэлі чмялі і пчолы
над россыпам кветак у лузе
дзе пасвіцца чырвоны конь
і звініць ланцугом
нібыта ён прывязаны
да цэнтра Зямлі
дзе стаіш ты
як апостал мясцовы
ЛІПЕНЬ
паветра густое мядовае
і конікі стракочуць
канапацяць бочкі на мёд
па рэчцы плывуць купальскія вянкі
расквітнелыя німбы анёлаў
якія апусціліся на зямлю
каб жыць як мы і сярод нас
і ты вяртаешся з грыбоў
нібыта з раю ў гэты свет
каля высокіх копаў сена
вежаў у якіх жывуць казкі
і ты чуеш іх і ты бачыш
як навальніцай напаўняецца неба
як палатно на мальберце фарбамі
з якіх пральецца жывы дождж тваіх пачуццяў
у нашыя душы
ЖНІВЕНЬ
саспелы яблык падае ў траву

кропляй сонечнага лета
і коціцца ў баразну сярод градаў
на якіх качаны капусты
зялёныя планеты
у сузор'і кропу
пад сонцамі сланечнікаў
і ходзяць даўганогія буслы
каля Аляхновічаў па іржышчы
нібыта шукаюць мапу
на якой пазначаны шлях у вырай
і золата саломы самотнае
але светлае
як душы вяскоўцаў
што сеялі збожжа
і ў небе плывуць аблокі
як пыл за статкам кароў
якія вяртаюцца з пашы
і ты сядзіш на валуне
на краі свету
ВЕРАСЕНЬ
жураўліны клін у небе
стрэлка вечнага гадзінніка
паказвае на восень
і дзеці ідуць у школу
і светла і святочна ў вачах
як у слове Радзіма
што тут у дзяцей пачалася з Аляхновіч
дзе не спыняюцца хуткасныя цягнікі
і толькі з электрычак чуецца
«станцыя Аляхновічы»
і ты едучы возам
на якім мяхі з бульбай
сядзіш
як на здабытым золаце
КАСТРЫЧНІК
вароны на пазалацелых віхлах
як на восеньскіх вежах
чорныя як у чорных плашчах віжы
глядзяць удалячынь на дарогу
якой праскакаў вершнік

з прызнаннем ад закаханага
у ціхае мястэчка
якое за палямі за гарамі
дзе жыве Цудоўная і Непаўторная
а дождж сыплецца і сыплецца
і сады ўжо саромеюцца сваёй аголенасці
і кусты як вогнішчы
і апалае лісце
як луска ад залатых рыбак
якія ператварыліся ў людзей
і перасяліліся на карціны мастака
каб стаць вечнымі
ЛІСТАПАД
павуціна
ці першая шэрань
лётае ў паветры
сярод лістоты як ліхтароў
якія лётаюць
і асвятляюць калюгу
затуманеную першым лёдам
на дне якой бярозавы ліст
як залаты купал Храма
у далёкім-далёкім мінулым
з якога пачаліся твае дарогі
і ты ідзеш па Аляхновічах
і людзі вітаюцца з табой
і жонка чакае цябе і дзеці
і ў кожным кроку тваім
Вера Надзея Любоў
і гэты дзень
як вечнасць
у якой няма месца
для здрады злосці зайздрасці
і сонца ў небе і ў тваіх вачах
як пацалунак Божы
СНЕЖАНЬ
ізноўку снег
попел
ад спаленых карцін
якія не атрымаліся ў Бога

## **Лістапады Яўгеніі Янішчыц (20.11.1948–25.11.1988)**

3. 11. 2016

ад свайго першага лістапада
да першага верша пра маці
праз першыя россыпы
лістоты і слоў
ты ішла ў маладой журбе
прыгожая і закаханая
светлая як малітва
у дзень вечаровы

ад першага верша
ішла на голас ліры
праз снежныя грамніцы
берагам Ясельды
берагам сусвету
у пару любові і жалю
дзе снег белы папера
якой ты давяраеш і давяраешся

твая каліна зімы
зорнае неба
куды ўсе імкнуцца
непрыручаныя птушкі
а ты птушка непрыручаная
і табе на беразе пляча
не быць сагрэтай

і на Ягадным хутары
заўсёды ветлае вакно ў дождж
дзе стрыжы начныя
клічуць і клічуць сонца

і ты ідзеш па свеце
і вяртаешся
да маці да сябе да сына
у якога свой лістапад

і ў шуме жытняга святла
твой шлях бясконцы
да твайго апошняга лістапада
які ніколі не будзе апошнім

Сонца, якое не заходзіць

## Сям'я

19. 09. 2019

Сям'я — гэта шчасце,
якое жыве ў табе,
як душа, як сэрца...
Сям'я —
гэта радасць,
бясконцая і бязмежная...
Сям'я —
гэта святло,
да якога ўсе ідуць,
каб стаць святлом...
Сям'я —
гэта сонца,
якое не заходзіць...
Сям'я —
гэта золата,
якое залацей і каштоўней
залатых пярсцёнкаў...
Сям'я —
гэта вечнасць,
у якой мы не знікаем,
бо мы вечныя, як сям'я...
Сям'я —
гэта вера, надзея,
любоў і каханне,
без якіх не было б цябе,
не было б твайго дома,
не было б твайго шчасця,
радасці, святла, вечнасці,
не было б Радзімы,
не будзе будучыні...
І ты любіш сям'ю,
і ты беражэш сям'ю,
і ты ганарышся сям'ёю,
а сям'я любіць цябе,
беражэ цябе і табой ганарыцца.
І нішто не заменіць сям'ю,
як цябе ніхто не заменіць
у сям'і, дзе ты нарадзіўся,
дзе ты нарадзілася,
каб жыць у сям'і...

### Калі закончыўся

1. 12. 2019

калі закончыўся на небе снег
праліўся дождж
змываючы сцяжыну
якою воўк па лесе белым бег
не просячы нагам сваім спачыну

быў дзень кароткім
і бясконцым лес
і дождж прайшоў
заціхла паляванне
і ў неба маладзік па хвоі ўзлез
як снег збялелы ўвесь ад хвалявання

### Вадой у вечнасці

30. 11. 2019

вадой у вечнасці пясках усё знікае
і зарастае ўсё нявечнаю травой
і мёртвы вораг твой
што рэчкай праплывае
з цябе смяецца зведаўшы ў вадзе спакой
і ты глядзіш услед яму
і ты самотны
бо ведаеш што хутка гэтаю ж ракой
ты паплывеш за ім
пакінуўшы свет родны
не ўзяўшы анічога ў вечны шлях з сабой
туды дзе ў вечнасці пясках усё знікае
і зарастае ўсё нявечнаю травой
і мёртвы вораг твой
што рэчкай праплывае
з цябе смяецца зведаўшы ў вадзе спакой

### Пабялела трава

13. 11. 2019

пабялела трава ад начнога марозу
яшчэ сонца не хутка прачнецца і ты
па траве пабялелай ідзеш да нябёсаў
як ланцуг пакідаючы ў травах сляды

ты дадому не вернешся болей ніколі
бо вярнуцца ніхто не пакліча цябе
і тваёю сцяжынай раздзеліцца поле
стане крыллем тваёй
невымоўнай журбе

## Прачнуцца ў Вільні

12. 11. 2019

Прачнуцца ў Вільні, як прачнуцца дома,
І выйсці ў сад, дзе яблыкі ў траве,
Дзе промні сонца — восені салома —
Заблытаны ў цябе на галаве
У валасах, расчэсаных вятрамі.
Гарбату п'ем салодкую, як мёд,
І адзінокая аса над намі
Лятае, нібы з казкі верталёт...

Прачнуцца ў Вільні, як прачнуцца дома.
Мы прачынаемся, і наш гатэль
Плыве ў туман. Куды? Нам невядома.
Плыве, як ненадзейны карабель...

## У садзе

29. 09. 2019

У садзе, дзе хаваліся нябёсы
У яблыках і ў трапяткім лісці,
Лятали злосна залатыя восы,
Перашкаджалі да цябе ісці.

А ты пад вішняю старой сядзела,
Гарбату верасовую піла,
І ў томік Багдановіча глядзела,
Радкі шаптала, радаснай была.

А за высокім плотам гойсаў вецер
І пылам засыпаў мае сляды.
І, нібы дзень, стаў светлым вечар
Уміг, калі ўсміхнулася мне ты.

## Матыль і пчала

28. 09. 2019

Ты сядзіш у пакоі,
нібыта ў каморы старой,
І чакаеш,
калі зноўку сонца загляне ў пакой,
У якім ты адзін,
як маленькі ў шуфлядзе матыль,
Што быў злоўлены ўчора
як быў на траве поўны штыль
Перад бурай,
якая з Балтыйскага мора ішла...
І на дрэвах лісця стала меней,

і меней святла
Стала ў горадзе гэтым,
дзе ты з адзіноты памрэш,
Бо такія, як ты,
для тутэйшае большасці трэш.
Але ты не бядуеш,
бо ты ўжо знаёмы з бядой,
Ты сядзіш у пакоі,
нібыта ў каморы старой.
Я прыйду да цябе і камору тваю запалю,
Я самотны і сам,
а таму я такіх не люблю,
Што сядзяць і чакаюць
з Балтыйскага мора цяпла.
Я прыйшоў да цябе,
і за мной прыляцела пчала.
Ты пабачыў пчалу
і мне дзверы ў пакой зачыніў,
Бы мяне не было,
а мяне ты з пчалою прысніў.

## Цягнікі не спыняюцца

11. 09. 2019

Цягнікі не спыняюцца
тут каля вёскі малой,
А ўсё роўна нікому
спакою няма сто гадоў.
І на міг ліст бярозы
ў вядры з дажджавою вадой,
Як цягнік праімчыць,
задрыжыць і задрэмле ізноў.

Ты за плотам стаіш у сваім агародзе сухім
І глядзіш на чыгунку, нібы на павалены плот.
І варона з бярозы крычыць:
«Давай, брат, паляцім!»
І вароне ўсміхаешся ты, быццам бы ідыёт.

Музыка,
якая
не
заціхае

І ты верыш яшчэ,
што прыпыніцца неяк цягнік
І жанчына ў бялюткай сукенцы
пакіне вагон.

Гэта будзе Яна,
пра якую ты марыў і сніў,
І ўсе будуць на вас паглядаць,
як на дзіва, з вакон.

Зноў цягнік праімчаў,
і ў вядры з дажджавою вадой
Патануў ліст з бярозы,
нібы там яго не было.
І ты ў дом свой пайшоў
і накрыўся з усёй галавой,
Не згасіўшы ў пакоі
над ложкам рыпучым святло.

## У тых вачах

19. 08. 2019

У тых вачах, дзе спіць начное неба,
Ты не шукай вясновага святла.
Там вечна поўна ледзянога срэбра,
Там восень хрызантэмай не цвіла.

І прыйдзе час, і ўсё ты адшукаеш,
Што адшукаць табе дазволіць Бог.
І дзень пражыты ва ўспамінах раем
Табе тут будзе на крыжы дарог.

І ў тых вачах, дзе спіць начное неба,
Хтось знойдзе ўсё ж вясновае святло,
А ты напішаш на платовых рэбрах
Усё, што думаеш пра тое, што было...

## Неба ўвечар

14. 08. 2019

Неба ўвечар спакушальнае,
як смерць,
За якой нязнанае для нас быццё.
Ды не можа камень
з птушкамі ўзляцець
І ля зор не можа палятаць лісцё.

За зямлю трымаецца наш белы свет,
Як туман і росы ў лузе за траву,
Як за кніжку першую сівы паэт,
Як старыя перад смерцю за царкву.

Неба вечна спакушальнае, і ты
На яго штодня глядзіш
і тым жывеш,
Што заўсёды помніш
час свой залаты
І не знаеш час,
калі ў нябыт сплывеш.

## Хутка снегам

13. 08. 2019

Хутка снегам усё замяцецца,
А пакуль што лісцё і дажджы
Засыпаюць сцяжыны і сэрца,
Вымываючы вечнасць з душы.
І глядзіш ты на свет, адзінокі,
І табе ўжо ўсё роўна, што зноў
Дзень кароткі, і ў небе аблокі,
І каліна, як воўчая кроў,
Чырванее на ўзлессі за хатай,
У якой больш ніхто не жыве.
Іржавее рыдлёўка і ватай
Павуціна бяляе ў траве.
Хутка снегам усё замяцецца,
А пакуль што лісцё і дажджы.
І трымаецца Бог наш за сэрца
На іконцы на чорным крыжы.

## Апошняе сонца

3. 08. 2019

апошняе сонца ўзышло над зямлёю
і ўспыхнула ў травах вуголлем раса
якая ніколі не будзе слязою
ніколі расою не стане сляза

і ты прыпыніўся нібы асляпіўся
успомніў дарогу
якую прайшоў
здалося што ўчора ты тут нарадзіўся
і ноч прамінула як сотня вякоў

Музыка,
якая
не
заціхае

апошняе сонца тваё дагарае
нічога пра гэта не ведаеш ты
але салавей што спяваў не спявае
магчыма ён голас згубіў залаты

## Не свяцілі

27. 07. 2019

Не свяцілі знаёмыя вочы
Святлафораў на вуліцы той,
Па якой ты да Восені крочыў
І ніхто не ішоў за табой.

І прыйшоў ты да Восені шэрай
І маўклівай, нібыта пясок.
І нябёсы былі, як папера,
Што прамокла, а ты не прамок
Пад старым і чужым парасонам,
Што знайшоў каля сметніцы той,
Што была, як гаршчок без вазона
І як ваза з жывою вадой.

І глядзеў ты на Восень, а Восень
На цябе не глядзела, бо зноў
Па-над Ёй маладзік, нібы вусень,
Поўз між зорак, як між кажаноў...

## Каб заўтра дзень

26. 07. 2019

Каб заўтра дзень
пачаўся з адзіноты
І кавы горкай,
як стары палын,
Ты спаць кладзешся,
як басяк пад плотам,
Пад цішынёй,
што любіш ты адзін
У горадзе, які даўно самотны,
Бо адчувае, нібы смерць, зіму.
Як з лёду, дом у шкле стаіць зіхотны,
Што сонца з'еў, як спелую хурму.
Ты ведаеш,
што вечнасць прамінецца
І ноч закончыцца, нібы вайна.
І нехта ўжо ніколі не прачнецца,
А ты прачнешся, і ўпадзе сцяна
Вялікай цішыні... І адзінота,
І кава горкая, нібы палын,
З'яднаюцца ў табе і стануць мёдам.
І будзе дзень, як жоўты пластылін...

**Пасля дажджу**

26. 05. 2019

па дрогкім шкле вада сцякае
а па вадзе сцякае шкло
і белы матылёк шукае
у чорным матыльку святло
і сочыш ты за іх лятаннем
увесь прамоклы пад дажджом
ты ведаеш што ёсць каханне
і будзе тут як і памром
пасля дажджу які пральецца
і змые нас і матылькоў
а сонца як сусвету сэрца
не спыніцца пасля дажджоў

**Разбіваецца сонца**

11. 05. 2019

Разбіваецца сонца ў вачах
аб ваду на рацэ,
І па венах нябёсы цякуць у цябе на руцэ,
У якой ты трымаеш,
як меч здзервянелы, вясло,
А навокал трава, у якой туманоў нарасло,
Праз якія ісці, каб вярнуцца ў прыдуманы свет,
Дзе ніколі не будзе забіты прарок і паэт...

І ляціць, як агонь, над ракою чырвоны груган,
І разбітае сонца лістотай плыве ў акіян...

**Гісторыя пра трамвай**

10. 04. 2019

над горадам старым ляцеў трамвай
ён жоўтым быў
як на асфальце лісце
ніхто не бачыў бо пілі ўсе чай
а я хадзіў па дахах як калісьці

трамвай ляцеў няспешна нібы ў сне
з яго вакна глядзела маладзіца
і радасна ўсміхаючыся мне
прасіла ў аблачыны не зваліцца

Музыка, якая не заціхае

і я схапіўся каб не паляцець
за павуцінкі што з аблок віліся
і я ступіў на сонечную медзь
якая ўніз сцякала па карнізе

і падала на жоўтае лісцё
на рэйкі зіхатлівыя трамвая
над горадам я паляцеў і ўсё
нічога больш не помню і не знаю

**На дрыготкай вадзе**

10. 04. 2019

На дрыготкай вадзе,
што нядаўна пад лёдам была,
Палымнее святло,
і цураюцца вочы святла.
І гляджу я на лес за ракой,
што стаіць як сцяна,
На якой вецер піша зялёнаю фарбай: «Вясна».
І няспешна лятуць па-над лесам дамоў журавы,
І праз поле на ўзгорак сцяжына бяжыць да царквы.
І жанчына старая, як прывід у чорным, ідзе,
І ў нябёсах над ёю, нібыта ў вясновай вадзе,
Палымнее святло, і цураюцца вочы святла...
Зноў на поле гляджу...
Быццам мама мая там прайшла...
Век стаю і маўчу, і чакаю, што скончыцца дзень,
І мяне ўжо няма, і ўжо лёд на іржавай вадзе,
А на лёдзе зіхціць дрэў асенніх святло...
І ніхто мне не верыць, што лета заўчора было...

**Зялёнымі ніткамі траў**

9. 04. 2019

зялёнымі ніткамі траў
прышыта лістота старая
да ўзгоркаў сівых да канаў
дзе вецер сцюдзёны лятае
дзе ты раніцою прайшла
услед за няспешнай пчалою
да кветак ляцела пчала
і неба плыло над травою
туманам і дымам з лясоў
дзе зоркі з вуголлем змяшаны
дзе ў слове любоў ёсць любоў
дзе кожны ў цябе закаханы
хто бачыў цябе раніцою
калі ты па лузе ішла
услед за няспешнай пчалою
нібыта за кропляй цяпла

**Не вернеш**

9. 04. 2019

тых лістоў што згарэлі
ніхто болей не прачытае
ну а з попелу іх ты не злепіш прыгожы палац
у якім будзе восень твая як агонь залатая
не дыміцца пад столлю
а зырка і горка палаць

пройдзе век а мо дзень
і ў слязах пашкадуеш былое
толькі ўжо шкадаваннем
не вернеш ніколі той час
калі ў чорным каміне гарэла тваё і чужое
і сцяною рабілася ўміг падзяляючы нас

тых лістоў што згарэлі ўначы
не ўзнавіць аніколі
і не трэба нічога ніколі ніколі ўзнаўляць
калі вецер ляціць праз душу
як праз чыстае поле
і калі там стаялі крыжы а ўжо болей крыжы не стаяць

і травой зарасце палявая старая дарога
і ў тумане ўсё знікне і прыйдзе як шчасце зіма
будзе снег як папера пісаць не захочам нічога
бо сказалі мы ўсё паўтарацца нагоды няма

**Ляціць пчала**

9. 04. 2019

ляціць пчала па-над травой згарэлай
дзе толькі што агонь як кветкі цвіў
ізноўку стала ты прыгожай і нясмелай
каб я цябе нясмелую любіў

агонь згасіла ты і мне сказала
каб болей не паліў сухой травы
паліць траву нібы паліць вакзалы
нібы збіваць крыжы з сівой царквы

Музыка, якая не заціхае

ляціць пчала па-над травой згарэлай
нібы чыясьці светлая душа
ды чорная зямля не стане белай
і век вадзе не выцячы з глыжа

## Зусім стары паэт

23 .03. 2019

замкнуўся ў кватэры ад чорных нябёсаў
святло запаліў занавесіў вакно
аўсянку зварыў закурыў папяросу
і выпіў заўсёдныя лекі-віно

і ты ўжо спакойны бо ўсё за сцяною
чаго ты баішся нібыта хлапчук
які ў казкі верыць начною пароюю
дзе поўня ў нябёсах вялікі павук

і будзеш сядзець ты сівы адзінокі
да раніцы самай каб потым заснуць
і сніць маладыя гады як аблокі
і вулку што імем тваім назавуць

## Разлілася восень

4. 03. 2019

Разлілася восень, быццам мора,
Дзе рабіны кроны маякамі
Асвятляюць сумныя прасторы,
Што цяпер асыпаны лістамі.
З вёскі цётка лісце падбірае
І складае ў кошык, каб зімою
Слухаць, як лістота залатая
Шэпчацца, як зоркі — між сабою.

## Балада Вільні

22. 01. 2019

Размаўляем пра Вільню, а Вільні няма,
І даўно ўжо няма, быццам бы не было.
І наўкол, як Балтыйскае мора, зіма,
Дзе з дамоў, як з дзіравых пасудзін, цяпло
Выцякае, знікае, як зніклі тут мы,
І на могілках больш няма нашых магіл,
І ўсе нашы дамы ўжо не нашы дамы,
І, як стод нашых мрояў, пусты небасхіл...
Размаўляем пра Вільню, а Вільні няма,
І ніколі не будзе яе ўжо для нас,
І казаць, і маліцца за Вільню дарма,
Яна наш залаты, ды мінулы ўжо час...
І ляціць матылёк на святло да агню,
І знікае ў святле, і згарае ў агні.
І ўжо сыплецца пыл табе на даланю,
І здзімаецца пыл у цябе з далані...

**Паехаць у Вільню**

19. 01. 2019

Паехаць у Вільню і ў Вільні застацца
Апалай лістотай на мокрай зямлі,
І будуць тамтэйшыя людзі таптацца
Па лісці тваім, як па цёплай раллі.

І будзеш маўчаць і трываць адзіноту,
І знікнеш пад снегам, як прыйдзе зіма.
І родным вянок прынясецца з работы.
Куды яго класці? Магілы няма.

...Ты ў Вільню паехаў і ў Вільні застаўся
Кляновым лістком, што, як знічка, упаў.
І нехта лісток, бо яму спадабаўся,
Дадому прынёс, ля іконы паклаў.

**Замецена снегам дарога**

6. 01. 2019

замецена снегам дарога
і гэта дарога да Бога
і ты сярод поля стаіш
нібыта на могілках крыж

і ў небе ляціць над табой
анёл з залатою трубой
і больш анідзе анікога
ні мёртвага і ні жывога

і думка ў табе мітусіцца
ці ява ўсё гэта ці сніцца
замецена снегам дарога
і гэта дарога да Бога

**Цяпер у мінулым**

12. 12. 2018

Цяпер у мінулым зялёнае лісце,
Зноў сонца аскепкі ў стаптанай траве,
Якая вялікай была тут калісьці,
Ды толькі не большай,
чым крыж на царкве.

Музыка, якая не заціхае

Ты можаш аднойчы вярнуцца дахаты.
Ніхто не спытае, дзе быў, што рабіў.
І толькі сабака табе будзе рады.
Як добра, што ты ўсё ж сабаку купіў!

Няспешна блукаеш па беразе рэчкі,
Нібыта па беразе сонечных дзён.
Чарот, як патухлыя чорныя свечкі,
І стог саламяны, як зрынуты звон.

## Аб неба забіваюцца

11. 12. 2018

Аб неба забіваюцца вароны,
Таму высока з дрэваў не лятуць.
Шалёны вецер, як і ты, шалёны,
У свет імкне, дзе доўга не жывуць
Шалёныя, зялёныя, і восень
Паўзе на ўзгоркі праз палын-траву,
Дзе полымя асін з чаго ўзнялося,
Не ведаеш, не тлуміш галаву,
Глядзіш, як кідаюцца ўверх вароны,
Нібы на моры хвалі на пясок,
Дзе спіць каменьчык гладкі і зялёны,
Як на градзе апошні агурок...

## Ты сваё жыццё

10. 12. 2018

Ты сваё жыццё запішаш на вадзе.
Залатою кропкай зорка ападзе.

І ніхто не скажа, ад чаго памёр.
Сціснецца ў валун
твой век і наш прастор.

І мураш крылаты выпаўзе з травы,
Нібы вош рудая з мёртвай галавы.

І ўсміхнецца крыва ў небе маладзік,
І адвісне ў звона стомлены язык...

## Уночы шэпчаш

09. 12. 2018

Уночы шэпчаш вершы Юры Кузняцова,
Няспешна п’еш віно, як з чэрапа ён піў,
З жаўцюткай поўні,
дзе бялюткіх зор палова
Люструецца, тых зор, што ўчора палюбіў
Ты ў азіяцкім пыльным небе над сабою.
У вуха вецер злосна дзьме, нібы ў мазгі,
Каб ты забыўся пра крыжы па-над травою,
Дзе спяць даўно бацькі, дзе па вясне снягі,

Як разадраныя сцягі, на сонным полі.
Ты з Юрам п’еш віно, і не п’янееш сёння ты.
І птушкі, што не лётаюць, пяюць пра волю,
Лістотай мёртвай засыпаючы тваe сляды
На сцежках тых, дзе цішыня і вечны морак,
Каб ты па іх ніколі болей не хадзіў.
Там сёння выпаў снег, як попел белых зорак,
Ты з поўні піў віно, як з чэрапа ён піў.

## Грэшнік

30. 09. 2018

На вастрыі агню, што апякаў начное неба,
Была твая душа,
нібыта крыж малы са срэбра,
Што на табе быў, як праз навальніцу ты ішоў.

І пад кустом лазовым шэрым мокрыя вароны
Сядзелі, нібы порхаўкі, і воўк маўчаў галодны,
Забыўшыся, чаго ён за табой уноч пакінуў роў.

Да раніцы было яшчэ далёка, як да Меккі,
Дакладней, як да Вільні, як да мора, дзе ўсе рэкі
Зліваюцца ў адно, як душы ў неба, пчолы ў рой.

І ты яшчэ мог зноў дамоў, пакуль жывы, вярнуцца,
Як ты вяртаўся і ўцякаў ад тых, што ўсё смяюцца
З такіх, як ты, што век не задаволены сабой...

## Цішыня

26. 09. 2018

заходзіш у туман нібыта ў цішыню
што стала ў раніцу туманам і расой
і ля цябе яна як мошкі ля агню
дыміцца і плыве між небам і зямлёй

і ты ідзеш за ёй нябачны і сляпы
як крот што выпаўз ціха з-пад зямлі на свет
дзе дрэваў мокрыя замшэлыя слупы
стаяць як лесвіцы забытае шкілет

Музыка,
якая
не
заціхае

кудой да сонца сыдзе моўчкі цішыня
пакінуўшы цябе нібы заплечнік свой
у росным лузе дзе прачнецца ласяня
яшчэ пакуль не напужанае табой

## У холадзе вачэй

25. 09. 2018

у холадзе вачэй што сталі лёдам
спыніўся як на фотастужцы час
за небакраем як за вечным плотам
ніколі не было й не будзе нас

і гэты свет нам не спазнаць ніколі
хоць будзем думаць што мы знаем свет
як крыж драўляны ў адзічэлым полі
дзе пахаваны вой альбо паэт

і там пчала лятае і збірае
рассыпанае сонца на зямлі
што мёдам стане і пчаліным раем
з якога ўсе мы выгнаны былі

## Адзінота з катом

05. 09. 2018

абсыпана неба пяском залатым
каб слізка анёлам на ім не было
і ўноч з галавешак кудзеліцца дым
пакінуўшы ў печы святло і цяпло

няспешна выходзіш на вуліцу ў снег
і следам бяжыць як прысмалены кот
які ад цябе тут даўно б ужо збег
ды хоча з табою сустрэць Новы год

ты курыш згараеш і ў неба глядзіш
анёлаў не бачыш а крылы завей
і хочаш крычаць ды як бомба маўчыш
не хочаш будзіць адзінотай людзей

## Мастак

21—25. 08. 2018

у запэцканых небам вячэрнім
і сонцам руках
ты карціны ўздымаў
і чапляў на іржавых цвіках
што як кулі тырчалі ў сцяне дзе цябе забівалі

і святлела ў скляпенні
ад пыльных без рамаў карцін
і ляжаў на талерцы
раскроены шар-апельсін

і над ім як над сонцам зарэзаным
пчолы ляталі

у патрэсканай шклянцы
чарнела як дзёгаць віно
я прыйшоў да цябе
і пастукаў як здань у вакно
і зайшоў праз вакно
растаптаўшы памерлую муху

і ў запэцканых небам вячэрнім
і сонцам руках
не карціна была
а вялікі завоблачны птах
і было ў яго дзюбе тваё адарванае вуха

## Сонца воскам цякло

20. 08. 2018

сонца воскам цякло над дарогамі
і над палямі
і знікала ў траве
як з дзіравай кішэні мядзяк
і шукалі яго пакуль відна было з журавамі
лугавыя вятры і знайсці не маглі аніяк

ён няспешна ішоў
праз туман як праз вечнасць сівую
і сляды ўсе за ім зараслі халоднай расой
і з сабою ён нёс з дальняй далі ваду нежывую
і жывую ваду каб зрабіць сваю маці жывой

ты глядзеў яму ўслед
і жадаў яму лёгкай дарогі
і хацеў ты вады папрасіць каб крыніц не шукаць
ды трава абвіла пазбіваныя босыя ногі
і не змог нават добрага слова яму ты сказаць

і маланкай ён знік у тумане бы ў вечнасці белай
і сябе ты пазнаў
у тым хлопцы віхрастым малым
і душа твая ўслед журавом за ім не паляцела
а зрабілася дымам і горлам сышоў лёгкі дым

## Начны халодны дождж

12. 08. 2018

Начны халодны дождж
напомніў — побач восень,
І ўранку ты дастаў свой чорны парасон.
А ён зламаны,
і табе даўно не дваццаць восем,
Пара ўжо думаць пра душу і пра свой скон.
А ты ўсміхаешся, бо ты шчэ не стамлёны
Ад горада, дзе ціха ўночы дождж ішоў,
А не чужых машын змяістыя калоны
Асфальт, як лёд, крышылі і тваю любоў
Да свету, у якім жывеш амаль шчаслівы,
Бо ведаеш не ўсё пра гэты тлумны свет,
Дзе вачанят сабачых дробненькія слівы
Глядзяць табе шторанку запытальна ўслед:
«Ці вернешся дамоў?» І ты ідзеш з усмешкай
На вуліцу, не ўзяўшы чорны парасон,
Ідзеш спакойна ты сваёй вузенькай сцежкай,
Спрабуючы ўзгадаць, пра што быў сёння сон...

## Хоць на пару хвілін

10. 08. 2018

хоць на пару хвілін
адпусці сваю радасць на волю
ты яе не трымай у сабе
як у клетцы чыжа
і няхай твая радасць
не вернецца болей ніколі
ды шчаслівай пабудзе
хоць пару хвілінак душа
бо душа не кулак
у якім ты трымаеш капейку
што знайшоў на шляху
па якім праімчалі вазы
падымаючы пыл
дзе шлагбаўма старога лінейка
прымушае спыніцца націснуўшы на тармазы
бо чыгунка ў кустах
нібы струны вялізнай гітары
на якой Бог іграе калі ў яго добры настрой
і па травах блакітных у небе вандруюць атары
беланогіх авечак спакойнай вячэрняй парой
дык на пару хвілін

адпусці сваю радасць на волю
і не бойся што хтосьці вар'ятам палічыць цябе
я ж смяяцца з цябе тут не буду ніколі ніколі
бо як можна смяяцца цяпер калі сонца ў журбе
адыходзіць ад нас за лясы як за чорныя горы
і лісцё засыпае згарэлую ў леце траву
і прапахлыя дымам і мёдам палынным прасторы
кружаць радасна мне як зялёны абсент галаву

**У прыску губляюцца зоры**

19. 07. 2018

у прыску губляюцца зоры
а ў небе вуголле дыміць
і поўняцца поўняй прасторы
і лес чорным замкам стаіць
і белыя коні туману
бялеюць ля замка ўначы
пакуль шчэ далёка да ранку
пакуль шчэ ад замка ключы
у сонца якое начуе
у травах што дзесь за гарой
прачнецца і ўсіх расцалуе
і чорная вежа сасной
зноў стане і замка не будзе
і знікне што ўночы было
і выйдуць з дамоў ціха людзі
і ўпусцяць як котак святло

**Памерці і не ўбачыць**

15. 07. 2018

памерці і не ўбачыць болей мора
якое ногі цалавала ўсім
хто да яго прыходзіў і як гора
у неба адпускаў цыгарны дым

памерці ты не хочаш бо з табою
памрэ ўвесь свет які вакол цябе
зялёнай вадасцёкавай трубою
і ты з вадой сцякаеш па трубе

Музыка,
якая
не
заціхае

на гліну дзе згубіліся сцяжыны
канатамі згарэлых караблёў
іх падпалілі нашыя жанчыны
каб нам не пакідаць сваіх дамоў

памерці і не ўбачыць болей мора
якога тут няма яно сышло
як адыходзіць кожны дзень ва ўчора
як хвалі разбіваюцца аб тло

### У лісці пажаўцелым асіны

30. 06. 2018

у лісці пажаўцелым асіны
як лісцё матылі
матылі
і аблокаў сівых павуціна
ад нябёсаў ажно
да зямлі
на якой ты стаіш адзінокі
нібы крыж
што ля сцежкі стаіць
і лятаюць над садам сарокі
нібы дым над лісцём
што дыміць
а ўзгарэцца не можа бо сыра
ад дажджоў што ўвесь тыдзень лілі
і трава пахне маслам і сырам
малаком што з табой мы пілі
калі ў мамы былі гасцявалі
і лятали ў двары матылі
над асінай і ў небе знікалі
і знікалі ў зялёнай зямлі

### На восеньскай траве

24. 06. 2018

На восеньскай траве раса сівая,
Як дым асенні, што расою стаў,
І песня жураўліная знікае,
Плыве над морам звечарэлых траў.
І ты глядзіш на захад, дзе аблокі
Чырвоныя, як ветразі ў крыві
Тых караблёў,
якім не плыць далёка,
Ім тут згарэць, ім вецер не злавіць
У восеньскай траве і ў жоўтым лесе,
Дзе вогнішча тваё яшчэ дыміць,
Дзе па драбіне з павуціны
лезе
У неба цень твой зоры запаліць...

**Аднойчы пачынаеш разумець**

5. 05. 2018

аднойчы пачынаеш разумець
што ўсё мінае і мінецца гэта
бадзяжнае нібы зімой мядзведзь
і чорна-белае нібы газета
тваё жыццё якім жывеш цяпер
не просячы ад Бога дапамогі
калі ў бяскрыўднай замеці папер
згубіліся твае шляхі-дарогі
да хаты той дзе цеплыня жыве
а ў садзе шэры салавей лятае
і белым дымам дзьмухаўцы ў траве
пакуль далёка восень залатая
стаяць як ты нядаўна там стаяў
і думаў што ўсё вечна і бясконца
і вецер праз цябе не пралятаў
і над табой плыло як вечнасць сонца

**Зноў пачынае зелянець**

16. 04. 2018

Зноў пачынае зелянець ваколле,
Нібы агнём зялёным палымнець.
І зоркі ў небе залатою моллю
Пасля зімы збіраліся ляцець,
Але не паляцелі анікуды.
І зараз ноччу светла, нібы днём,
У Мінску, дзе дамы, нібы сасуды,
Напоўнены каханнем і цяплом.
І ты не спіш, бо грэшна спаць вясною,
І ты па горадзе праз ноч ідзеш,
І матылі лятаюць над табою
І над агнём, што ты ў сабе нясеш...

**Крыжы платоў**

14. 04. 2018

Музыка,
якая
не
заціхае

Крыжы платоў драўляных у мястэчку
І сонца,
што згасала на крыжы,
Ты бачыў часта ўвечары праз рэчку,
Як праз мяжу, не знаючы мяжы
Паміж сабой і небам над сабою.
І век сканчаўся, як сканчаўся дзень,
І бегла вечнасць з ветрам за ракою,
Страсаючы ў ваду з бярозаў цень.
І ты самотным быў, але не сумным,

Як цёплы дым, што віўся з каміноў
I асядаў на рэчку, і на гумны,
I на крыжы ссівелыя платоў...

**Чырвонае сонца**

6—9. 02. 2018

Чырвонае сонца плыло над палямі,
I жоўтаю поўняю стала яно.
I знікла сцяжына, як дзень, пад снягамі,
Каліна замерзла, нібыта віно,
I зоркамі стала, што чырванню свецяць.
Ты гронку нясеш, а мог кінуць у снег,
Дзе спаў адзінокі, як воўк белы, вецер,
I вецер прачнуўся і следам пабег
У полі анёльскім па снежнай паперы,
Дзе словы жылі, а цяпер іх няма.
I ў дзень адбялелы замкнуліся дзверы,
I вечным замком стала поўня сама.
Ты прыйдзеш дамоў, дзе ніхто не чакае,
I снег абтрасеш, як мінулае, з плеч.
Запаліш у печы, жывой стане печ,
Каліна таксама зноў будзе жывая,
Як сонца, якое нас не пакідае...

**Нішто не вечна**

1. 02. 2018

Нішто не вечна
ў нашым тлумным свеце,
I гэты свет спакойны, нібы шкло,
I плыткі, як у навальніцу вецер,
Што з нас здзірае шапкі і цяпло.

I ты ідзеш,
няшчасны і шчаслівы,
Па вуліцы, дзе празвінеў трамвай,
Задзёршы модна драцяную грыву,
Нібыта ехаў у трамвайны рай.

Нішто не вечна
ў гэтым тлумным свеце,
I вечна ўсё,
калі любіць, кахаць,
I ведаць, для чаго нам сонца свеціць,
I толькі маме рукі цалаваць...

**Як зорка ўпадзе**

22. 01. 2018

Як зорка ўпадзе, нібы кропля крыві,
Кажан яе зловіць, а ты не лаві.
Кажан яе зловіць, дамоў панясе,
Рассыпле святло па начное расе.
І ты ёю пойдзеш, і след за табой
Сцяжынаю стане і стане травой
Усё, што ўпадзе і не зловіць кажан,
Не зловіш і ты, і, як мора, туман
Затопіць наш свет, дзе ад зорак святло,
Як тое, што будзе, што ёсць і было.
Ты выйдзеш з туману, і знікне туман,
І братам тваім стане чорны кажан.

**Усё было**

21. 01. 2018

Усё было прыдумана да нас,
І нават мы прыдуманы былі.
І тыя, хто іграў учора джаз,
Сваю Радзіму ўсё ж не прадалі,
Бо ўсё пра іх прыдумана было.
І век прайшоў, нібы мінулы дзень.
Харон не выпусціў з рукі вясло,
Зялёным дрэвам не зрабіўся пень,
Бо ўсё было прыдумана да нас,
Каб гаравалі мы і так жылі,
Нібы ігралі ў пераходзе джаз,
Нібы ў агонь ляцелі матылі.
І ты гаворыш мне, што я дурны,
Што тут застаўся, а не ўцёк у свет.
Я дома тут! І, як хачу вясны,
Шукаю кветкі, а не пісталет.

**Сярод ночы прачнешся**

16—18. 01. 2018

Музыка, якая не заціхае

сярод ночы прачнешся
нібы сярод мора
як паміж берагоў
паміж заўтра і ўчора
будзеш жыць у кватэры як на караблі

паглядзіш у вакно
і не ўбачыш нічога
усміхнешся бацькам што даўно каля Бога
а здаецца што ўчора з табою былі

выпʼеш з крана вады і закурыш цыгарку
і ўзгадаеш на свяце паэзіі ў парку
падарыў табе кнігу якісьці паэт

возьмеш кнігу чытаць прачытаеш два вершы
і няшчасную кнігу лухтой назавеш ты
і шпурнеш да зжаўцелае купы газет

## У чорнай вадзе

11—13. 01. 2018

у чорнай вадзе незямнога начнога патопу
вялікая поўня нібы з пенапласту плыве
над жоўтай як воўчыя вочы
прыціхлай Еўропай
дзе межы й старыя акопы
схаваны ў траве
у полі сланечнік нібы на карціне Ван Гога
стаіць адзінокі ля сцежкі якая вядзе
магчыма не толькі да Рыма а проста да Бога
па полі па лесе па чыстай і мутнай вадзе
пад небам якое як купал адзінага Храма
дзе нам век маліцца і шчасце і волю спазнаць
дзе ў кожнага з нас ёсць найлепшая добрая мама
але ёй пра гэта не ўсе мы паспелі сказаць
і ты адзінокі як гэты сланечнік што ў полі
на поўню глядзіш і спакойна як воін ідзеш
праз чорны патоп што не стане сусветным ніколі
бо ты не дасі яму выйсці з дазволеных меж

## Як не снегам

8. 01. 2018

Як не снегам, дык нябёсным пылам
Сцежка зацярушыцца, дзе ты
Галубоў і вераб’ёў карміла
Зоркамі, што ўпалі на сады,
У якіх ты прычакала восень,
Як з далёкай далі карабель,
Што заўжды нам прыгажосць прыносіць,
Што не прадаецца за рубель,
А за вершы, што яшчэ ты створыш
Некалі, каб гэты сумны свет
Ад снягоў стаў белым-белым морам,
Каб па ім ішлі за намі ўслед
Тыя, хто таксама стане пылам,

Як і мы, дзе ў скверы ўчора ты
Галубоў і вераб'ёў карміла,
Помнячы — не вернешся сюды.

## У тваім гадзінніку

5. 01. 2018

У тваім гадзінніку пясочным у сусвеце
Ссыпаўся ў заснежаны курган сівы пясок.
Сёння поўня па-над ім,
як ледзяная, свеціць,
І бяжыць па сцежцы холад,
як па дроце ток.
І табе не спіцца,
як саве, якая ўночы
Бачыць, як зваротны бок святла,
наш белы свет
Чорным,
дзе гуляе ў чыстым полі вецер воўчы,
За якім цяпер палюе малады паэт,
Бо ў тваім гадзінніку пясочным у сусвеце
Ссыпаўся ў заснежаны курган сівы пясок.
І цяпер ты ведаеш,
што вершы — гэта вецер
Злоўлены,
дзе прозвішча паэта,
як замок.

## Даўно памерлы свет

4. 01. 2018

Даўно памерлы свет яшчэ жыве
У пыле тэатральным і парфуме.
І, як бялее шэрань на траве,
На галаве парык,
набыты ў ЦУМе,
Бялее ў маладзенькага актора.
І сцэна,
нібы плаха, на якой
Яшчэ лілася кроў людская ўчора,
Цяпер паліта з чайніка вадой,
Каб пыл не залятаў у святлацені,
Дзе ажывае час,
што сплыў даўно.
І, як віно, ты п'еш кампот на сцэне,
Каб піць пасля сапраўднае віно.

Музыка,
якая
не
заціхае

## У небе

3. 01. 2018

У небе, у якім няма анёлаў,
Даўно вятры сцюдзёныя жывуць.
І ты глядзіш на хмары невясёла,
Нібыта на магільную траву
У Вільні, у якую ты прыехаў
І ходзіш, быццам прывід, ля магіл.
З крыжоў каменных і каплічных стрэхаў
Дажджынкамі сцякае небасхіл,
Які ты бачыў з далечы далёкай
І ў адзіноце беларускай сніў
Герояў паўзабытых і пракокаў,
І ў туманах балотныя агні
Пад небам, у якім няма анёлаў,
А толькі продкаў душы і святло,
І поўня, як старога воза кола,
Што ў вечнасці загразла і ўрасло
У цемру, нібы ў твань, дзе ёсць дарога,
Якую не пакінем мы з табой,
Бо нам ісці дадому, як да Бога,
Прыйсці і стаць магільнаю травой.

## Зноў дзень прыйшоў

2. 12. 2017

Зноў дзень прыйшоў. Пара ісці шукаць
Прыгоды, а яны прыходзяць самі.
Вароны пад маім вакном сядзяць,
Як сінякі ў суседа пад вачамі.

І я гляджу, нібыта кот, з вакна
На п'янага крыклівага суседа.
І сонца сёння плямай ад віна
У небе, па якім гуляла лета

З маланкай і дажджом, і чорны свет
Рабіўся каляровым і шчаслівым.
І ўдзень чапляўся да дзяўчат паэт,
Казаў: «Я сталы аўтар «Нашай Нівы»!»

І двор мой напаўняўся, як вадой
Басейн стары, людзьмі і вераб'ямі...
І дзень прабег, як мыш, перада мной
І ў поўні знік, бы ў дзюрцы пад дзвярамі...

### Святлом напаўняецца неба

26. 10. 2017

Святлом напаўняецца неба,
Як снегам старая трава.
І поле — заснулая зебра,
І сад твой — яе галава.
І зебру будзіць нам не трэба,
Яна тут знікае сама
У шэрае ў воблаках неба
І ў светлае слова «зіма».

### Не згарыць пад нагамі

18. 09. 2017

Не згарыць пад нагамі апалае мокрае лісце,
І на захадзе сонца не ўзыдзе ніколі, як нам
Аніколі тут з белага свету жывымі не выйсці
У свет іншы,
сябе не забіўшы, нібыта свой Храм
Не ўзарваўшы.
І ты ўжо апалае мокрае лісце
Вымятаеш з двара,
са свайго зацішнога жыцця,
Як цябе вымяталі кар'ерныя людцы калісьці
Са сцяжыны сваёй, прыраўняўшы людзей да лісця.
Ды гарыць пад нагамі апалае мокрае лісце,
І на захадзе сонца сляпое ўзыходзіць, і нам
Адзіноту сваю пры пісьмовым стале пераплысці,
Як раку, і ў вадзе патануць на дарозе, што ў Храм.

### За апошні радок

10. 09. 2017

за апошні радок зачапіўся
нібы за апошні вагон
цягніка што ішоў праз туман
у краіну дзе мора і лета
распалохаўшы сонных даўно
і старых вераб'ёў і варон
з рук тваіх на зямлю
амаль цэлую вечнасць ляцела газета
дзе апошні радок запрашаў у цягнік
што да мора ішоў
і ты сеў у цягнік
у апошні вагон не сказаўшы бывай
тым хто любіць цябе
хто з табой нат без зброі да смерці гатоў
бараніць калі стане патрэбным

Музыка,
якая
не
заціхае

як волю сваю родны край
пройдзе час як цягнік і дадому зноў вернешся ты
як заўсёды вяртаўся адтуль дзе гасцінныя людзі і лета
і ніхто не сустрэне цябе адны толькі ля хатаў платы
пабягуць і ўзляціць над дарогай як птушка старая газета

## Лісце жоўтае падае

9. 09. 2017

лісце жоўтае падае і засыпае сцяжыну
па якой не хадзіў і не будзеш ніколі хадзіць
як нідзе не сустрэнеш ля мора
з карціны дзяўчыну
хоць ты можаш дзяўчыну і мора
да смерці любіць
што жывуць на карціне якую ў музеі ты бачыў
і яна для цябе прашаптала а што не пачуў
за машынаю сонца ляцела як вогненны мячык
і дзяўчына з карціны за сонцам ляцела ўваччу
і далёка як мроя застаўся іспанскі той бераг
і маленечкі горад якога на мапах няма
ты прыкуты да роднай зямлі як рабы да галераў
і цябе адрываць ад крыжоў як ад вёслаў дарма
і лісцём як пяскамі тваё засыпаецца ўчора
ды як грэшнік ля Бога стаіць
яны перад табой
нібы сонца што стала вадой залацістае мора
і дзяўчына якая ніколі не будзе зямлёй

## Пасля дажджу начнога

6. 09. 2017

пасля дажджу начнога
як пасля патопу
над мокраю зямлёю сонца не ўзышло
не асвяціла пачарнелую Еўропу
і чорным быў усход як крумкача крыло
і ты як Ной ішоў па горадзе ў якога
каля Траецкага ў рацэ стаіць каўчэг
а на каўчэгу ўжо няма даўно нікога
з яго ўсе паўцякалі ў пошуках уцех
хаця яны маглі і далей на каўчэгу
жыць як жылі па парах і не сумаваць
і пры камп’ютары
смактаць жаваць «Онегу»
і чорным «Лідскім» півам млява запіваць

пасля дажджу начнога як пасля патопу
але ты ўбачыў неба белае як тынк
і моцна палюбіў з Нямігі Пенелопу
і голубам ляцеў яе над Мінскам крык

**Апошні мой дзень**

31. 08. 2017

Апошні мой дзень не апошняга лета
Без сонца, нібыта фужэр без віна,
Які на стале, нібы ў цэнтры сусвету
Стаіць і чакае свайго пацана,
Што купіць віна і напоўніць да краю
Апошні фужэр свой, што цэлы яшчэ,
Як дзень гэты летні, які пачынаю
Любіць ні за што, дзе туман па рацэ
Апошняга дня не апошняга лета
Плыве і без сонца знікае ў той свет,
Дзе лісце ляжыць — залатая карэта,
Вятрамі начнымі разбітая ўшчэнт.

**У лісцях залатых**

30. 08. 2017

у лісцях залатых
па нітках павуціны
раса сцякае і губляюцца ў траве
нібы апошнія апошнія хвіліны
цяпла і лета што яшчэ яшчэ жыве
і ты ідзеш праз золата
і следам вецер
ляціць зрываючы няспелую расу
і кветкі ў лузе не квітнеюць
толькі свецяць
прывабіўшы адну здурнелую асу
што нарадзілася відаць у тым тумане
што затапляў сваёю белізною свет
які нібы за посах вечны за каханне
трымаецца не горай чым сівы паэт
што ў лісцях залатых у нітках павуціны
сягоння ўбачыў вершаваныя радкі
што ў свеце пражылі адзіную хвіліну
сабою асвяціўшы ўсе чарнавікі
апалага лісця што ў Храма пад дзвярамі
ужо ляжаць
раструшчаныя намі

## Пабі акуляры!

29. 08. 2017

Пабі акуляры!
І досыць сляпым прытварацца.
Аслепнуць паспееш.
І будзеш сляпы, як Гамер.
Ізноў у нас восень.
І цёмна ў двары, як у шапцы.
Усё, што свяціла ў двары, больш не свеціць цяпер,
Бо нехта за лета пабіў ліхтары і ліхтарні
Зламаў, нібы рукі, якія не ўмеюць нічога рабіць
Адно, што, калі гаспадар іх сядзеў у кавярні,
Яны яму дапамагалі і жэрці, і піць.
Пабі акуляры! Няхай у вачах адаб'ецца
Не шкло акуляраў, а неба, дзе сонца няма,
Якое, ты думаў, што вельмі падобна да сэрца,
Яно ж, нібы жаба, якую стаптала зіма,
Калі сэрца ўпала з далоні сляпога Гамера,
А мо і не ўпала, а ты ўсё прыдумаў, дзівак,
У час той, калі па Еўропе хадзіла халера
І нас там хацелі чужынцы купіць за пятак.
Пабі акуляры! І ўбачыш, што я ў акулярах,
Нібыта прыслеплы, па горадзе змрочна хаджу.
Зноў сонца, як дзеўчына ў сене, хаваецца ў хмарах,
І колецца й хочацца мне праліўнога дажджу,
Каб змыў ён з мяне акуляры і ў вочы сляпыя
Вады налілося, каб вочы зноў сталі жывыя...

## Ты глядзіш на вакно

24. 08. 2017

Ты глядзіш на вакно,
на якім дождж малюе сцяжыны.
Сярод іх ёсць твая,
на яе ты цяпер паглядзі,
Бо, магчыма,
яна да адзінае ў свеце жанчыны
Прывядзе тваё сэрца,
ты толькі няспешна ідзі,
Як ідзе гэты дождж,
што траву затапляе з учора,
І здаецца,
дажджу тут не будзе ніколі канца,
І, дзе горад цяпер,
будзе Мінскае прэснае мора,

І яно будзе ад Смалявічаў аж да Івянца.
Ты глядзіш на вакно,
як на неба, што шыбаю стала,
І разбіць гэта неба ты можаш,
рассыплецца шкло,
І яно празвініць, хоць гадамі,
як мёртвы, маўчала,
Праз сябе прапускаючы,
нібы праз мытню, святло.
І рассыплюцца
намаляваныя сцежкі-сцяжыны,
Ды адна застанецца
на ціхай нябёснай вадзе,
Па якой пойдзеш ты да адзінае
ў свеце жанчыны,
Што насустрач табе
не збіралася, і не ідзе,
І не пойдзе ніколі,
як дождж не ідзе, калі просяць,
І ніколі вадой не затопіцца свет да канца.
А пакуль што, як мора,
дажджом напаўняецца восень,
Не шкадуючы ні Смалявічаў і ні Івянца.

## **Ізноў па вулках**

14. 08. 2017

ізноў па вулках вузкіх Барселоны
з табой на гукі музыкі ідзём
і вецер з мора мокры і салёны
не хоча пахнуць кавай і вінам
кавярні той дзе мы былі з табою
дзе нам здавалася што за сцяной
сядзіць Калумб з сябрынаю сваёю
і думае ці браць мяне з табой
у шлях па золата якога многа
як зор над Барселонаю начной
дзе Млечны Шлях Калумбавай дарогай
злучае гэты белы свет і той
куды па вузкіх вулках Барселоны
з табой на гукі музыкі ідзём
і вецер з мора мокры і салёны
спакусна пахне кавай і вінам

## Рассыпаныя семкі

11. 08. 2017

рассыпаныя семкі на асфальце
а сонца як сланечнік што Ван Гог
намаляваў на сінім небе пальцам
намаляваў і твор адобрыў Бог
і сонца свеціць нам нібы сланечнік
які цвіце і летам і зімой
і я іду па свеце і заплечнік
заўсёды нібы горб цяпер са мной
у ім нашу алоўкі і паперу
хачу нібы Ван Гог намаляваць
сланечнік белы у які я веру
прашу за мной чаргі больш не займаць
да сонца што сланечнікам Ван Гога
увечары прыляжа на траве
каб папазіраваць крыху для Бога
і для Ван Гога што між нас жыве

## У вечнасці губляюцца

6—10. 08. 2017

у вечнасці губляюцца сцяжыны
а вечнасць наша пыльная трава
ды сонца не знікае над Айчынай
яно як бога залатога галава
і ты ідзеш услед
за ўласным ценем
які сцяжынаю перад табой
і як пажар сусветны лес асенні
вятрамі тушыцца нібы вадой
і любіш ты адвечную самоту
што ў прыдарожных дрэвах і крыжах
па-над якімі птушкі як лістота
лятаюць і знікаюць у вяках
куды ідзем
трымаючыся мэты
што часам і не вартая граша
мы ўсе вандроўнікі і ўсе паэты
і кожны марыць што яго душа
да Бога даляціць і скажа Богу
што ты адзін хто варты каб ізноў
прайсці па свеце вечную дарогу
праз веру праз надзею праз любоў
дзе ў вечнасці губляюцца сцяжыны

а вечнасць наша пыльная трава
дзе палымнеюць восенню асіны
дзе кружыцца ад сонца галава

**Ты зноў трымаешся**

27. 07. 2017

Ты зноў трымаешся за неба гэта,
Дзе вырасла бялюткая трава
І воблакамі стала па-над светам,
Чырвоным, нібы ў полымі царква
На ўзгорку, дзе асіны маладыя
Сабраліся ісці за небакрай
І не пайшлі, бо, пэўна, не дурныя
Шукаць за небакраем вечны рай,
Якога ты даўно ўжо не шукаеш,
Бо ведаеш: няма чаго шукаць
Таго, чаго ніколі не бывае
За небакраем. І рукой дастаць
Ты змог да неба, каб цяпер трымацца
За неба ў восеньскай калюзе, дзе
Аблокі, нібы вогнішчы, раяцца,
Знікаючы ў вятрах, як у вадзе.

**Прагнулася неба**

6. 05. 2017

Прагнулася неба ад чорных аблокаў,
І ў полі прыцiхла сівая трава,
З якой, як з забытага намі далёка,
Як Ноеў каўчэг, завіднела царква.

І вылецеў голуб з царквы белакрылы,
Каб нам расказаць пра забытыя дні,
Каб нам паказаць нашых продкаў магілы
І нашага заўтра жывыя агні.

І вылецеў ястраб з чарнюткае твані,
І следам за голубам ён паляцеў.
І голуба ястраб крывава параніў,
Але не забіў, а забіць ён хацеў.

Музыка,
якая
не
заціхае

І неба пазбылася чорных аблокаў,
І ў полі ізноў зашумела трава,
Куды, бы ў забытае намі далёка,
Як Ноеў каўчэг, светла знікла царква.

## **Раней прачнешся**

4. 05. 2017

Раней прачнешся,
чым прачнецца горад,
І выйдзеш на асфальт, нібы на лёд,
І, каб адчуць ягоны летні холад
Разуешся, як вечны ідыёт.
І сам сабе ўсміхнешся і па вулцы
Ты пойдзеш, разглядаючы дамы.
І ў поўні белай, як у небнай дзюрцы,
Ты будзеш бачыць снег былой зімы.
І раптам ты сустрэнешся са мною.
Я босым буду, як і ты, ісці
Па вулцы, што заліта цішынёю,
Нібыта мёдам што на ліп лісці
Яшчэ трымаецца, пакуль сцюдзёна,
Пакуль агонь не крапае з лістоў,
Як з языкоў, высокіх дрэў зялёных,
Што ліжуць раніцай у сонца кроў,
Таму раней прачнуўся я, чым горад,
Каб бачыць тое, што не ўбачыш ты,
І каб адчуць асфальту летні холад
І ўгледзіць першым першыя лісты,
Што ўпалі на зямлю...

## **Наш белы свет**

1. 05. 2017

Наш белы свет напоўнены самотай,
Нібы вядро пасля дажджу вадой,
Якая нам спатрэбіцца спякотай,
Калі ад спёкі месца пад страхой
Не будзе нам, як не было ніколі
Нам месца там, дзе мы хацелі быць.
А мы хацелі быць на вольнай волі
І з Богам, нібы з бацькам, гаварыць
Пра белы свет, напоўнены самотай,
Нібыта снегам ля дзвярэй вядро,
Забытае мінулаю спякотай
Далёка ад аблокаў і вятроў,
Табой і мною ў час, калі па свеце
Пайшлі мы, каб вярнуцца ў родны край,
Прайшоўшы праз дажджы, снягі і вецер,
Праз адзіноту,
як забыты рай...

**Зноў лісце распускаецца**

10. 04. 2017

Зноў лісце распускаецца і горад
Зялёным напаўняецца святлом.
А шчэ нядаўна тут сабачы холад
Стаяў, нібы са свечкай, з ледзяшом
Каля вакна твайго, з якога ў неба
Глядзеў ты і казаў, што дрэнна ў нас
Мяняецца снягоў старое срэбра
На зорак золата ў маркотны час.
І час прайшоў, і снег растаў, і холад
Сышоў у свет, дзе цеплыні няма.
І нам застаўся, нібы выспа, горад
У моры часу, дзе была зіма.

**Як мёртвы будзеш спаць**

2. 03. 2017

як мёртвы будзеш спаць у цішыні
у гэтым свеце шэра-залатым
і пралятуць па-над табою дні
як спаленай лістоты горкі дым
цябе пабудзіць першы мокры снег
што крыллем ляжа на тваіх плячах
і поўня быццам залаты арэх
асвеціць ноч знікаючы ў снягах
і скажаш ты я сто гадоў праспаў
і засмяецца ўночы снегавік
якога ты зляпіў і ты не знаў
яго растопча ўранку цяжкавік
а мы жывем і будзем вечна жыць
як мары пра бясконцую вясну
і будзе снег як кветкі на крыжы
і для цябе не будзе болей сну

**На лецішчы**

18. 01. 2017

На лецішчы на століку ў пакоі
Віно замерзла, разарвала пляшку,
І шкло зялёнае, нібыта з хвоі
Ігліца мерзлая, упала важка
На белую ад шэрані падлогу.
Засвеціць сонца, і віно патроху
Растане, высахне, і толькі пляма
На століку надоўга застанецца.
І будзе ноч глыбокая, як яма,
Дзе будзеш ты, трымаючыся сэрца,

Музыка, якая не заціхае

Ісці на лецішча, каб у пакоі
Віно шукаць, што разарвала пляшку,
І шкло зялёнае, нібыта з хвоі
Ігліца мерзлая, упаўшы важка,
Твае халодныя парэжа пальцы.
І кроў пральецца, як віно сухое.
І знікне свет у спаленай запалцы,
І будзе ўсё наўкол, як смерць, чужое.

## Ідзеш па снезе

4. 01. 2017

Ідзеш па снезе,
як па небе шэрым,
Якое да вясны пакінуў Бог.
І не замкнутымі на неба дзверы
Пакінуў, каб зайсці ты змог
На неба шэрае, дзе ў снезе зоры,
Як яблыкі збялелыя, ляжаць.
Ідзеш па небе,
як па ўмерзлым моры,
Дзе рыбакі з анёламі сядзяць
І ловяць сонца, каб яно сагрэла
Наш белы свет,
што ў снезе патануў,
Каб ты ішоў і за табой ляцела,
Як снежка, чайка з крыкам пра вясну...

## Калі ўначы

2. 01. 2017

Калі ўначы губляецца дарога,
Ты ўспамінаеш, як набожны, Бога,
Хоць ты Яго даўно не ўспамінаў.

І ты ідзеш праз ноч, як праз балота,
Дзе чэрці ёсць і розная брыдота
Галодная глядзіць услед з канаў.

Але, як толькі ўсход заружавее,
Ты Бога забываеш і смялееш,
Як на слупе без правадоў манцёр.

І не патрэбна ўжо табе дарога.
Ты ўчора з дому выйшаў да Ван Гога,
А сёння ўспомніў, што Ван Гог памёр.

**У травах губляецца**

7. 11. 2016

У травах губляецца неба начное,
І сонца ўсплывае з халоднай расы,
Вялікае сонца і не залатое,
А русае, быццам твае валасы,
Што мела паўвека таму, маладая,
І ты ў гэтым свеце, што сёння сівы
Не менш за цябе і які ўсё шукае
Дарогу да Бога, і ў моры травы
Губляе ўсё роднае і залатое,
І дзень пачынаецца, і гэты свет,
Нібыта згарэлая вечная Троя,
І сонца — наш постмадэрнісцкі партрэт.

**Мы па вячэрніх вулках**

18. 10. 2016

Мы па вячэрніх вулках Барселоны
Ідзём, не знаючы, куды ідзём.
Калумб на нас глядзіць, як Бог, з калоны,
Прамоклы на стагоддзі пад дажджом,
Які праліўся з неба, як з балеі,
Што зрынулі анёлы на зямлю,
Бо ў ёй склубіліся маланак змеі,
Сагрэўшы найвялікшую змяю,
Што асвяціла вулкі Барселоны,
Дзе мы ідзём, не знаючы куды,
За мараком, які сышоў з калоны,
Набраўшы, нібы золата, вады
У капялюш...

**Мы стаім у святле**

16. 10. 2016

Мы стаім у святле ліхтароў,
Назіраем, як нашы аўчаркі
Падбіраюць расу, нібы кроў
З траў вячэрніх, дзе дрэвы, як аркі
Залатыя, дзе восень прайшла
І лістоту растрэсла пад ногі
Дываном, каб лістота была,
Покуль мы не спазналі дарогі
Праз зіму, дзе снягі і снягі,
Нібы белага мора разлівы,
У якога ў смузе берагі,
І глядзім на снягі мы шчасліва,
На якіх, як марскія ваўкі,

Музыка, якая не заціхае

Белы пыл уздымаюць аўчаркі,
І на Мухлі слупкі асакі,
Нібы свечак бялюткіх агаркі,
Да вясны пад вятрамі стаяць,
І сабакі між іх прабягаюць,
Нібы час, у якім нам знікаць,
Покуль нас ліхтары асвятляюць...

## Ад холаду ўначы

13. 10. 2016

Ад холаду ўначы збялелая трава,
Як воблака,
якое на зямлю асела,
Дзе ў век мінулы адзінокая царква
Збіралася адсюль ляцець,
не паляцела.
Цяпер адна стаіць на ветравых шляхах,
Не помнячы свайго з'яўлення
ў грэшным свеце,
Трымаючы нябёсы на крывых крыжах,
Што пакрывілі людзі, а не д'яблаў вецер.
Сюды прыходзіш часта моўчкі пастаяць
І паглядзець на далеч, поле і нябёсы,
Каб потым Богу дзякуй за жыццё сказаць,
Змахнуць з вачэй, нібыта час пражыты, слёзы...

## Як золата старых ікон

7. 09. 2016

Як золата старых ікон, лістота
На Свіслачы, дзе ў чоўне ты плывеш,
Нібы Харон, якому не ахвота
Харонам быць. Ты хочаш быць найперш
Смяротным, як і ўсе, хто ў гэтым свеце
Праплыў па рэках і ў туманах знік,
Дзе з дрэў лістоту абрывае вецер
І сэрца грукае, нібы цягнік
Ідзе ў табе да станцыі апошняй,
Пазначанай крыжамі і ў смузе,
Дзе ўночы Млечны Шлях, нібыта пожня,
І поўня, нібы міска на страсе
Іржавая, што ты закінуў з дому,
Бо вольна ўздумаў жыць, не сумаваць
І, не рыфмуючы раней нікому,
Анёлам вершы на вадзе пісаць...

## У павука даўжэзнае жыццё

5. 09. 2016

У павука даўжэзнае жыццё,
Як павуціна, што за ім бялее
Над травамі, над маладым лісцём,
Над кратавіннем, нібы маўзалеем.
І ты ідзеш і ловіш павуціну,
Як нітку Арыядны, па якой
Вяртаешся ў самотную Айчыну,
Згубіўшы ў свеце сонца і спакой.
І павуку ты радасна гаворыш,
Што ты шчаслівы, што ідзеш дамоў
Па лузе жоўтым, як па жоўтым моры
Да берага, дзе шчэ жыве любоў
Да тых, хто родны кут даўно пакінуў,
Аддаўшы павукам сваё жытло
Пад пасівелым небам, як рабінай
Пасаджанай, калі яшчэ было
У павука даўжэзнае жыццё,
Як павуціна, што за ім бялее
Над сцежкаю,
над восеньскім лісцём,
Над кратавіннем,
нібы маўзалеем...

## Апошні дзень лета

31. 08. 2016

Апошні дзень лета
трымаецца за павуціну,
Якая бялее,
як ніткі, якімі прышыеш
Мой шлях да свайго,
і цябе я ніколі не кіну,
Ды толькі мяне,
як Амерыку, ты не адкрыеш

У гэты апошні дзень лета,
якое знікае,
Нібыта вада,
што праліта на бераг пясчаны
З вядра,
у якім адна рыбка жыла залатая,
Якую злавіў, калі быў,
як хлапчук, закаханы

## Музыка, якая не заціхае

У цень адзіноты,
якая за мною хадзіла,
Нібыта прышыта была да мяне назаўсёды,
Якая апошні дзень лета, як волю, любіла
І есці любіла са мною літоўскія шпроты...

Апошні дзень лета трымаецца за павуціну,
Якая бялее, як ніткі, якімі прышыеш
Мой шлях да свайго, і цябе я ніколі не кіну,
Ды толькі мяне, як Амерыку, ты не адкрыеш...

## Заўтра снегам засыплецца сонца

10. 08. 2016

Заўтра снегам засыплецца сонца
І мы пойдзем за горад шукаць
Наша сонца, якое бясконца
Не магло нашы дні асвятляць,
У якіх мы жылі, як хацелі,
І таму заўтра выпадзе снег
Белы-белы, як хворы ў пасцелі,
І чужы нам, нібы печанег.
І ніхто век нам «дзякуй» не скажа,
Калі сонца мы знойдзем з табой.
І снег стане чарнюткім, як сажа,
Сонца будзе над намі трубой,
Па якой тут штодзённа сцякае,
Нібы з даху, з нябёсаў святло,
Што наш свет, як басейн, запаўняе
І змывае з нас цені і тло...

Заўтра снегам засыплецца сонца...

## Тут мора і сосны

4. 08. 2016

Тут мора і сосны на беразе мора.
І белы пясок,
нібы вечнага снегу
Старыя бясконца паўзучыя горы,
Пад намі,
і радасна нам аж да смеху
Ісці супраць ветру,
як супраць цячэння,
Які развявае, як сцяг, тваю хустку.
Зноў сонца над морам,

і сонца свячэнне,
Як шлях залаты, які кліча не ў пустку,
А ў неба, дзе воблакаў белыя храмы,
Дзе белыя свечкі гараць і згасаюць,
І іх прыбірае мая сёння мама,
І сёстры яе там ёй дапамагаюць,
Каб мора і сосны былі каля мора
І мы па пяску тут ішлі, як малыя,
І не забывалі пра нашае ўчора,
І помнілі, што мы часова жывыя
На гэтай зямлі, дзе ёсць сосны і мора...

**Звужаецца свет**

3. 08. 2016

Звужаецца свет
да памераў вакна
На кухні, дзе ты, як філосаф, сядзіш
За келіхам чорным старога віна,
Дзе плавае лёдам з лядоўні Парыж,
Які растае, як пад сонцам туман,
З сябе вызваляючы поле і бор,
Дзе летам мінулым пранёсся буран,
Зламаўшы яліны, стварыўшы прастор
Для жалю, для болю, для воўчых вятроў,
Якія ў тваё залятаюць вакно,
Калі забываеш, што толькі любоў
Ратуе ад суму, але не віно...

**Не думаеш нічога**

11. 05. 2016

Не думаеш нічога пра самоту,
Як пра траву, што вырасла вясной
На сцежцы,
што была ў цябе за плотам,
Нітуючы з дарогай палявой
Твой свет маленькі, у якім дажджамі
Намыта, нібы золата, жарства,
Дзе могілкі тапырацца крыжамі,
Нібы ў зямлю закопана царква
Тут не адна, а сотні, дзе сягоння
Памерлыя зноў моляцца за нас,
І ўсё пра нас там невясёлых помняць,
І больш, чым мы на іх, свой трацяць час
На нас, яшчэ жывых у гэтым свеце,

Дзе, як агонь, вясновую траву
Дзе толькі можа раздзімае вецер
І паўтарае за табой: «Жыву...»

## Бурштын ліхтароў

23. 09. 2014

Бурштын ліхтароў каля Храма
У цемры жаўцее начной.
Я тут зноў малюся за маму,
Я маму тут бачу жывой.
І вецер над мною лятае,
І восень праз горад ідзе,
Ікона яе залатая
Лістотай плыве па вадзе,
Па Свіслачы чорнай, як вечар,
Як вечнасць, якая прайшла
Няспешна праз цішу і вецер
На дыбачках — промнях святла,
Каб бачыць далёка, дзе заўтра
Хаваецца ў снег і ў дажджы.
Я знаю, хто восені аўтар,
Ён вечна цяпер на крыжы,
Які тут заўсёды над намі
І па-над матуляй маёй.
Мы з мамай былі сёння ў Храме,
І мама там стала жывой...

## Па вуліцы бацька ідзе

13. 04. 2014

Па вуліцы бацька ідзе,
За ім плыве сонца ў вадзе
Ад снегу, які растае.

Вяртаецца бацька дадому,
Нячутны, нябачны нікому.
Яго бачаць вочы мае.

Ён доўга так будзе ісці,
Пакуль буду ў гэтым жыцці
Я ў вёску сваю прыязджаць.

Па вуліцы бацька ідзе,
Нібыта Хрыстос, па вадзе...
Я выйшаў яго сустракаць.

**Страла**

1. 02. 2019

страла
стрэлка гадзінніка
які заўсёды паказвае
толькі гадзіну смерці

страла
пяро
з крыла адзінокага цмока

і ляціць страла
як патухлая маланка
несучы на сваім вастрыі
кропку для сумнай балады
пра смелага воя

і ляціць страла
і хаваюся я ад стралы
як ад свайго лёсу

і ляціць страла
як расколіна ў сасудзе дня
з якога камусьці болей не піць
і я чакаю стралу
але пасланую Купідонам

**Снегавік**

9. 01. 2019

снег белы
але не белы як крэйда
якой ты малюеш снегавіка
на цаглянай чырвонай сцяне
за якой ніхто даўно не жыве
і на дзвярах вісіць іржавы замок
як вырванае сэрца
у чужога шчасця
якое тут было
калі быў снег белы
як белыя ружы
што прадаваліся ў суседняй краме
дзе чарга па кветкі была большай
чым па белае віно
ты малюеш снегавіка

які табе некалі ўсміхнуўся
калі ты стаяў каля яго
і глядзеў на вакно
за якім жыла самая прыгожая
і самая шчаслівая дзяўчынка

**Нядзеля**

25. 10. 2018

у поўню схавалася ноч
а з сонца выслізнуў дзень
пакуль ты спаў
і пакуль гатавалася кава
ты гартаў стары часопіс
і шторaз спыняўся
не даглядзеўшы да сярэдзіны
і побач з табой сядзеў сабака
і ты нікуды не спяшаўся
і крапала з крана вада
як пражытыя табою хвіліны
а на календары яшчэ была субота
і голуб прыляцеў да твайго вакна
і сеў на падваконне
і так было штораніцу
калі ты быў малады
калі ты быў
калі ты
калі
у поўню хавалася ноч
а з сонца
выслізгваў дзень

**Восень**

24. 10. 2018

вершаў паэтамі напісана болей
чым жыве людзей на зямлі
якія чытаюць вершы
і якія нічога не чытаюць
а ты ўсё рыфмуеш
і рыфмуеш
сонца і бясконца
кроў і любоў
і верыш
што не паўтараешся
як ніколі не паўторыцца

учорашні дзень
калі ты атрымаў ганарар
і прапіў з сябрамі
якія хадзілі за табой
як за Майсеем па пустэльні
і сёння ў цябе баліць галава
і ты не можаш успомніць
чатыры радкі
якія зарыфмаваў
для дзяўчыны
якая доўга не верыла
што ты вядомы паэт
а за вакном жоўтыя кусты
як пясок у пустэльні
праз якую ты прайшоў
з рыфмамі сонца і бясконца
каб спыніцца
і не пісаць вершаў
хаця б увосень
калі і так сумна
і вершаў даўно болей
чым людзей на зямлі

**Вокны**

21. 09. 2018

у кватэры
замянілі вокны
раней былі шыбы
падзеленыя крыжам
цяпер шыбы ў вокнах
проста падзеленыя напалам
праз адну палавіну
на вуліцу глядзіш ты
праз другую гляджу я
ты бачыш дрэва ў двары
і я таксама бачу дрэва
а на дрэве варону
ты не любіш варон
але ты яе бачыш
з другой паловы вакна
як з другой паловы свету
дзе не любяць варон

## Прапаленае неба

10. 09. 2018

там дзе прапалена неба
там сонца
і попел стаў снегам
якім засыпана ўсё
што цяпер пад сонцам
і ты ідзеш па снезе
як велізарны крумкач
які не ўмее лётаць
бо не хацеў вучыцца
калі быў малым
калі не было сонца
калі не было снегу
калі ўсюды было неба
і быў ты
з цыгарэтай
якой прапаліў неба

## Спякота

20. 08. 2018

спякота
што нават птушкі
не лётаюць
над горадам
і ў Свіслачы вада
цячэ
як мядовая брага
няспешна

седзячы пры стале
над аркушамі
з вершамі
бачыш з вакна
як у кавярні людзі
сядзяць над талеркамі
і сонца ў небе
як разагрэтая патэльня
на якой згарае
дзень

і ветру няма
нават
у тваёй галаве

**Яблык упаў**

16. 08. 2018

яблык упаў на сцежку
і нікуды не пакаціўся
перад навальніцай
і яблыку
страшна аднаму

**Матыль на кнізе**

14. 08. 2018

матыль на кнізе
як верш
якому закарцела на волю
і ён на волі

**Горад чакае дажджу**

2. 08. 2018

горад чакае дажджу
і затопяцца вуліцы
дзе раней цяклі рэкі
і ты будзеш ісці басанож
кінуўшы парасон
які зламаўся ад ветру
што хацеў зламаць дрэва
а дрэў тут няма
як памяці
пра тое што раней
тут
рос вялікі лес
і цякла рака
а пакуль што горад
чакае дажджу
як ты на працы
чакаеш адпачынку

**Пафарбаваў падлогу**

25. 07. 2018

пафарбаваў падлогу
надыхаўся белым лакам
які высах
і стаў бясколерным
як лёд
на якім ніхто не паслізнецца
нават падпітыя госці
што будуць хваліць падлогу
бо яна драўляная
бо на дошках відаць сукі
на якіх сядзелі птушкі

і спявалі
а цяпер мы спяваем
калі весела і сумна
і пафарбаваная лакам падлога
блішчыць
як люстраная
і ў кватэру залятае
пчала
і лётае над падлогай
як над разлітым мёдам
па якой іду басанож
падлога халодная
як раса
на траве якая расла каля дрэў
што сталіся падлогай
і я выходжу на гаўбец
каб дыхаць небам

**Мядовыя поцемкі**

24. 07. 2018

мядовыя поцемкі
і ты ідзеш праз іх
як праз мёд
які праліўся
з перакуленага сонца

**Чорным вугалем**

22. 05. 2018

чорным вугалем
на чорнай дошцы
малюеш ноч
дзе чорны кот
за чорнай коткай бяжыць
каля чорнага квадрата
як акварыума
дзе ў чорнай вадзе
чорная рыба плавае
з чорнай ікрой
і ты любіш усё чорнае
а я люблю цябе
не кахаю
а толькі люблю
як белае віно
у белых келіхах

на белым абрусе
на снезе
якім прабег чорны кот
паміж мной і табою
паміж днём і ноччу

**На сіняй паперы нябёс**

11. 05. 2018

на сіняй паперы нябёс
над горадам
намалюю аблокі
і дождж
напоўніць фужэры сметніц
небам
у якім адлюструецца
дзень
на сіняй паперы нябёс
над горадам
пралятуць вароны
як попел
з тваёй ночы
дзе ты спаліла
свой малюнак
аблокі і дождж
і ў горадзе было горача
як на патэльні

**Ружа**

7. 05. 2018

ружа
застыглы выбух святла
да якога злятаюцца пчолы
і збіраюць у ім салодкае золата
ружа
чырвоны ліхтар
на зялёнай вуліцы сада
дзе на яблынях спее спакуса
ружа
пацалунак анёла
першы і апошні
і цвіце ружа
як водбліск зоркі Венеры
і я праходзячы каля ружы
праходжу як каля варотаў у рай

## У словах твайго маўчання

1. 05. 2018

у словах твайго маўчання
хаваецца твой настрой
ад якога залежу
як мора
залежыць ад поўні

## Снег

11. 04. 2018

снег
не рыфмуецца з небам
снег з неба падае
і ўсё робіцца белым
як верш без рыфмаў белы

## Ледзяшы

17. 03. 2018

ледзяшы
вадзяныя гадзіннікі
уночы
спыніліся

## Дуб

14. 03. 2018

у кроне дуба вякі
як пчолы ў квяцістым лузе
у карэннях дуба
чарапы як апалыя жалуды
і мы перад дубам
як трава перад агнём
і мы глядзім на дуб
як на крыж на Храме

## Усё паўтараецца

16 03. 2018

усё паўтараецца
як панядзелак аўторак
серада чацвер пятніца
і толькі субота і нядзеля
непаўторныя
ты не ідзеш на працу
і робіш тое
што хочацца і не хочацца
і ўзыходзіць сонца
і ты бачыш
як яно ўзыходзіць
і заходзіць сонца
і ты глядзіш на яго
як на будучы панядзелак

**На шыбе**

24. 02. 2018

на шыбе
як на небе
за якім існуе жыццё
мароз намаляваў карціну
белы квадрат

**Вір**

17. 02. 2018

і застаўся вір
калі цмоку які жыў у рацэ
адсеклі галаву
вір гэта ўваход у пекла
у якім віруе жвір
палохаючы і спакушаючы
і круціцца вір як верацяно
накручваючы на сябе
зялёныя ніткі водарасцяў
і ружовыя ўзыходзячага сонца
вір гэта ружа
якую закаханы вадзянік
падараваў русалцы

**У тумане**

17. 02. 2018

у тумане
белыя дамы
як злепленыя са снегу
і здаецца
калі ўзыдзе сонца
белы горад растане
і сцячэ ў Свіслач
як у Лету

**Падраныя ветрам**

1. 02. 2018

падраныя ветрам
аблокі
снегам падаюць
на зямлю
і ты ідзеш белым полем
як чорны крумкач
які хоча быць белым
каб яго ніхто не бачыў
на сваім даляглядзе
дзе ў белы лес
белая дарога

**Мінулага няма**

31. 01. 2018

мінулага няма
яно проста слова
і ў кожнага сваё
і ты пішаш на вадзе
і ты пішаш на небе
толькі адно слова
якое
я не паспяваю прачытаць
бо яно мінулае
якога няма

**Тваё апошняе сонца**

28. 01. 2018

тваё апошняе сонца
учора згарэла
як свечка
якую ты бярог
каб запаліць
калі ветрам абарвуцца драты
і ў хаце не будзе святла
і на табе!
апошняе сонца згарэла
але яшчэ светла
магчыма ад свечак
што запалілі родныя і сябры
даведаўшыся
што тваё апошняе сонца
згарэла

**У аўдыторыі**

20. 10. 2017

у аўдыторыі
пры стале выкладніка
сяджу
як на сцэне
у тэатры аднаго актора
аншлагу няма
і слоў няма
усё як першы
і апошні раз
а за вакном восень
да вакацый далёка
як да Міжземнага мора
калі ісці пехатою

і я сяджу пры стале
як у чоўне
які не плыве сам па сабе
праз восень
і праз горад
над якім сёння сонца
як ліхтар над сцэнай
дзе сяджу я
і не ведаю з чаго пачаць

**Туман**

12. 10. 2017

туман
апускаецца
з неба
якое стала туманам
і знікае небакрай
з якога ўзыходзіла сонца
і ты спыняешся
сярод травы
сярод зялёнага мора
над якім туман
белая вечнасць
праз якую праплывае каўчэг
воз з саломай
на якім сядзяць твае бацькі

**З брудна-белага неба**

11. 10. 2017

з брудна-белага неба
сыплецца
і сыплецца дождж
халодны
і ты схаваўшыся пад парасон
чорны
як крыло крумкача
ідзеш вуліцаю
па мокрай
жоўтай лістоце
абыходзячы калюгі
якія магчыма гэтай ноччу
зацягнуцца лёдам
як празрыстымі фіранкамі
вокны ў тваю будучыню

Сцяжыны, якія не забываюцца

**Ноч**

11. 10. 2017

ноч
з кроны вялікага дрэва
абляцела лістота
зоркі засталіся

**Змрочна**

20. 09. 2017

змрочна
жоўты небакрай
і лістота ў вадзе
кроплі жоўтай фарбы
якой не хапіла
на сонца

**Камяні**

14. 09. 2017

камяні былі вялікімі
і ты сядзеў на камяні
як на цэнтры свету
і перад табой праходзілі
дні і ночы ночы і дні
і не было ім пачатку
і не было ім канца
і камень твой быў вялікі
як Вялікае Княства Літоўскае

**Над хутарам**

12. 09. 2017

над хутарам
зноў белы маладзік
долька часныку
абарона
ад вампіраў

**Пасля дажджу**

12. 09. 2017

пляц пакрыты
асфальтам
і калюжына на ім
неба
якое прабілася
праз асфальт

адлюстроўваецца
сонца ў вокнах
у калюгах
якія паўзуць па сценах дамоў
у неба

**Вулей**

9. 09. 2017

начаваў ён у вуллі
пчолы і трутні гулі
як у чарзе на Страшны суд
і снілася яму маці
і слёзы праз душу цяклі
як зоркі праз неба
і словы ляцелі праз вечнасць
як пчолы праз поле

**У шуме начнога горада**

7. 09. 2017

у шуме начнога горада
згубіўся скрыгат
апошняга трамвая
на якім ты вярнуўся
дадому
дзе цябе чакаў толькі
тэлевізар
а ты не стаў яго ўлучаць
каб у цішы начнога горада
стоячы на гаўбцы
слухаць
як у небе размаўляюць зоркі
пра апошні трамвай
дзе ты пазнаёміўся з дзяўчынай
у якой няма тэлевізара
а ёсць неба

**Няміга**

6. 09. 2017

Няміга
стаіш на краі вуліцы
як на беразе ракі
па якой як па чорным лёдзе
па асфальце
едуць і едуць
машыны
а ты чакаеш карабля
пад белым ветразем
і ён абавязкова прыплыве
толькі не сыходзь
з берага Нямігі
якая пад асфальтам
як пад чорным лёдам

### Высока ластаўкі лётаюць

12. 08. 2017

высока ластаўкі лётаюць
над горадам
як жамяра па-над вогнішчам
і ты глядзіш на іх
як шэры верабей
якому ніколі так не лётаць
як ластаўкам

### У небе адлюстроўваецца мора

5. 08. 2017

у небе адлюстроўваецца мора
глыбокае як неба
дзе лёталі чайкі
белыя як ветразі
і адзінокія як ты
і ты ішоў берагам мора
краем свету
дзе было лета
халоднае як мёртвае
і хвалі марскія
цалавалі твае босыя ногі
якія сто гадоў былі ў абутку
і хадзілі па асфальце
дзе ляжала твая зямля
у якой няма мора
але ёсць неба
дзе адлюстроўваецца мора
глыбокае як неба
па якім ты будзеш ісці басанож
калі цябе паклічуць продкі

### Чырвоныя гронкі рабіны

4. 08. 2017

чырвоныя гронкі рабіны
за вакном у двары
ты прачнуўся
і не разумееш
ці гэта лета ці ўжо восень
і колькі прамінула часу
калі ты спаў
магчыма год
а магчыма стагоддзе
і ты застаўся адзін
у гэтым старым доме

дзе рыпяць масніцы
як плачуць
па тых хто раней хадзіў
тут у гэтым доме
дзе ў дзвярах няма замкоў
і ты прыйшоў у гэты дом
у невядомы свет
у якім існавала жыццё
яшчэ да эры
чырвонай рабіны

**У вялікай калюзе**

3. 08. 2017

у вялікай калюзе
пасля навальніцы
плавае зялёная лістота
рыбкі
што ніколі не будуць
залатымі
як сарваная ветрам
падчас навальніцы лістота
не будзе залатой
і ты абыходзіш калюгу
неба
што ўпала на зямлю
у якім няма Млечнага Шляху
кладкі

**Прачынаешся раней за сонца**

3. 08. 2017

прачынаешся раней за сонца
і каву п’еш чорную
як мінулая ноч
дзе сыпаўся снег
як цукар у каву
соль у салату
попел у попельніцу
і ты глядзіш у вакно
як у тэлевізар
чакаючы навін
і засвяціла сонца
над горадам белым
як цукровым
і праз твой двор

праехала машына
і зноў стала ціха
як на краі свету
дзе толькі ты прачынаешся
раней чым сонца
каб сказаць яму
добры дзень
каб потым піць каву
і думаць
што не ўсё так кепска
калі і сёння
сонца ўзышло

**Ад**
**Менска**
**да**
**Мінска**

8—17. 06. 2017

напачатку была сцяжына
і мы прыйшлі
і было Слова
і на беразе ракі
як на беразе вечнасці
расклалі вогнішча
і асвяціліся травы́
вострыя дзіды
і асвяцілася неба
будучы купал Храма
і пачалося жыццё
Тут дзе Сёння
ёсць наша сталіца
наша слава
наша вечнасць
і наша натхненне

на Замкавай гары
святло і цені
і сыплецца снег
як цукар
на кавярню
каля якой ідзе газетчык
слухаючы як звіняць званы
на Храмах каля Нямігі
якая са Свіслаччу яднаецца
дзе хаты на берагах

заснежаныя караблі
і дым з іх каміноў
кудзеліцца ў неба
і па дахах старога Менска
коціцца сонца
і мы глядзім на яго
як на залатоўку
што ўпала з саней
якімі ехалі з кірмашу
маладыя і закаханыя

і была вайна
і была Перамога
і горад з руін паўставаў
як волат
прыгожы
як нашыя адвечныя мары
як нашая Любоў

сонца прачнулася
і ўсплыло высока-высока
а можа пад'ёмныя краны
яго паднялі над горадам
і неба стала глыбокім
для ластавак і галубоў
і першы трамвай па горадзе
паехаў паехаў
абуджаючы вуліцы
і ты выйшаў на гаўбец
і сказаў
добры дзень мой горад

у вялікім горадзе
амаль усё і ўсе вялікія
і плыве Свіслаччу
вялікі белы цеплаход
і музыка грае на ім
і хвалямі б'ецца аб берагі
і ўзлятае над скверамі і паркамі
і ты ідзеш на спатканне

вечаровым праспектам
як Млечным Шляхам
і каваю пахне вецер
і ты шчаслівы
бо ты жывеш
у вялікім горадзе
і ты ўжо ведаеш
што гэты горад
найлепшы ў свеце
і ты любіш свой горад
і горад любіць цябе

у кожнага дома
і ў кожнай вуліцы
сваё сонца
і свае зоркі
а ў вулках Верхняга Горада
святло і цені
цішыня і вецер
а ўчора выпаў снег
і ўсё стала белым
як чыстая папера
на якой напішуцца вершы
на якой намалююцца карціны
пра тое што было
што ёсць і што будзе
у нашых дамах
і на вуліцах нашых
і ты ідзеш па горадзе
у Музей Максіма Багдановіча
і слухаеш ягоныя вершы
у пошуме дрэў

ты стаіш на мосце
і пад табою цячэ Свіслач
і праплываюць па ёй крыгі
старонкі з вершамі
што напісала зіма
і праплываюць купальскія вяночкі
німбы закаханых

і праплывае золата лістоты
як золата старых абразоў
і праплывае срэбра снегу
і знікае ў вечнасці
і так было сотні гадоў таму
і так будзе
пакуль над Свіслаччу мост
яднае мінулае і будучыню
і ты стаіш на мосце
як на мастку стаіць капітан
які ведае і бачыць
куды ён плыве

у скверы Янкі Купалы
і ў кожным скверы і парку
вялікага горада
у кожным каменьчыку
у кожным лісточку
і ў кожнай травінцы
за якія зачапілася
восеньская павуцінка
сатканая з туману і неба
і на якой вісіць кропелька сонца
вечнасць жыве
і ты ідзеш
да Янкі Купалы
у якога на плячы сядзіць голуб
як на плячы нашага Калумба
які адкрыў для нас Паэзію

усе нашыя дарогі вядуць у Мінск
і ты едзеш электрычкаю
з букетам васількоў
з кроплямі неба
а за вакном Мінскае мора
і белы ветразь на ім
тутэйшы маладзік
які ўвечары ўзыдзе над горадам
і чайкі лятаюць нізка
цалуючы сонца ў хвалях

і дзень такі светлы
як бярозы вакол дарогі
а на ўзгорках стаяць Храмы
з якіх бачыцца вечнасць
і лётаюць буслы
нашыя анёлы
і чым бліжэй да Мінска
тым бліжэй да сэрца
трымаеш букет васількоў

ля Мінскай ратушы ў скверыку
Станіслаў Манюшка
і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч
і ты сядаеш побач
і разам з імі слухаеш
пра што звіняць званы
на царкве і на касцёле
а побач прайшоў Іван Міско
у сваю майстэрню
як у свой космас
і прабегла дзяўчынка
трымаючы ў футарале музыку
а з ратушы выйшаў Якуб Колас
і паклаў на лаўку «Новую зямлю»
каб ты перачытаў і перадаў сябру
і ўвечары ты пойдзеш у тэатр
каля дома дзе жыў Уладзімір Караткевіч
і будзеш дзівіцца на зорку Венеру
над горадам
як над сусветам
дзе ёсць мы

горад каменны востраў
які мы стварылі
у зялёным акіяне
травы і лясоў
на якім існуе жыццё
і лётаюць над ім
птушкі і самалёты
і ты глядзіш у зорнае неба

у якім як у люстэрку
люструецца святло ліхтароў
і ты не самотны
ты горад маеш

**Забытыя могілкі**

24. 05. 2017

забытыя могілкі
утравелыя
помнікі-валуны
як рэшткі брукаванкі
па якой прайшло
дваццатае стагоддзе

**Тут час спыніўся**

14. 05. 2017

тут час спыніўся
і дарога не зарастае
паміж млынам і царквою
у чаканні
беларускага Дон Кіхота

**Марозіва**

12. 05. 2017

і была ў мяне малога
немалая мара
мара пра марозіва
светлая
як марозіва
якога я ніколі не бачыў
але ведаў
што яно ёсць
як Валожын
там за цёмным лесам
куды раз-пораз
ездзяць дарослыя
і не бяруць мяне з сабою
а вярнуўшыся дадому
апавядаюць
што там ёсць
і там ёсць марозіва
і аднойчы мая мара
спраўдзілася
мне бацькі прывезлі марозіва
яно ляжала на стале
і я не ведаў

што рабіць з марозівам
есці
дык яно марознае
як прамінулая зіма
калі я прыклаў язык да жалязякі
заінелай белай
як марозіва
і я аддаў марозіва кату
і ў ката было свята
дзень марозіва

а над Парыжам белая поўня
вялікі шарык марозіва
і мы стаім каля вакна
і глядзім
як Марк Шагал
ходзіць па дахах
і спрабуе дастаць з неба
шарык марозіва
для сваёй каханай
якая сядзіць у кавярні
на беразе Сены
куды мы пойдзем з табою
і будзем смакаваць марозіва
якое прынясе з неба Шагал
для сваёй каханай
а яна падзеліцца з намі
даведаўшыся
што мы з Мінска
і ўпершыню ў Парыжы
які намаляваў Шагал

ізноў вясна
і на вуліцы ля крамы
прадаецца марозіва
і я праходжу міма
марозіва
нібы ля зімы
якая схавалася ў марозіва
і чакае свайго вызвольніка

**Межы**

30. 04. 2017

і ўзляцелі птушкі з дрэў
сумныя як попел
светлыя як снег
што ў цэнтры Еўропы
дзе межы як расколіны
на старажытным гаршку

**Сабраныя камяні**

19. 04. 2017

сабраныя камяні
становяцца мурам замка
брукаванкаю
і кожны каменьчык
не лішні
як палец у кулаку

**У старой хаце**

17. 03. 2017

у старой хаце
старое вакно
і ты глядзіш у яго
як у мінулае
дзе стаяць крэслы
на якіх сядзіць цішыня

**Шэры і шэрае**

11. 11. 2016

на шэрай гары
пад шэрым небам
жывуць шэрыя паэты
што пішуць шэрыя вершы
пра сваё шэрае жыццё
у шэрым свеце
які самі стварылі

і шэры заяц
уцякае ад шэрага ваўка
па шэрай зямлі
у шэры лес
і ты глядзіш
і нічога не бачыш
бо ўсё шэрае

і шэры верабей
хоча быць вялікім
як шэрыя гусі

якія выратавалі Рым
каб свет не заўсёды быў шэрым

і шэры салавей
спявае не шэрыя песні
і шэрая зязюля
не самая шэрая птушка
у шарую гадзіну
калі шарачковая шляхта
марыць не пра шэрую будучыню

і ў шэрым полі
шэрае каменне
як залатое
збіраюць шэрыя людзі
каб збудаваць Храм
які ніколі не будзе шэрым

і шэрыя косткі
зарастаюць травой
на якой шэры пыл
і шэры попел
змыюцца ў шэрую слату
і разбягуцца як шэрыя мышы
нашы нядобразычліўцы
бо мы не шэрыя
бо мы не шэрыя

## Праз вечнасць

лета, 2016

нам Бог стварыў
зямлю
і наша зямля
сталася пылінкай
у Божым воку

ізноўку на камень
сыплеш спелае зерне
а яно птушкам спажыва

да сябра ідзеш
па вадзе

па мокрым небе
у новых ботах

зноў звіняць званы
а бочкі чакаюць віна
і костачкі вінаградныя
як шрот

на павуцінцы
сонца ў кроплі дажджавой
але гэта
не твой дыямент

у старым лесе
пілавінне ў траве
і мурашкі рудыя
нібы з бурштыну

як пацалунак
уначы на Купалле
на плячы ў анёла
гарыць маладзік

вада ў конаўцы
сцюдзёная як зіма
не п’еш цалуеш

ідзеш праз клады
праз кнігу каменную
і не думаеш
што і ты станеш
сказам

сонца начуе
там дзе ніколі не быць
ні мне ні табе
за небакраем

глядзішся ў неба
зоры глядзяцца ў цябе

ноч паміж вамі
як вечнасць

туман над ракой
быццам воблака
якому не хапіла месца
у вечаровым небе

ты зноў заблукаў
як рэха ў начным лесе
і пачнеш гукаць
і сонца
пабудзіш

па Млечным Шляху
вецер гоніць лістоту
з дрэва Адама

грудок попелу
як у стозе іголка
у ім жарынка
свеціцца і знікае

дзічка на ўзлессі
усё яшчэ красуе
для пчолаў лясных
якіх ужо тут
няма

нібы ўпершыню
сонца ўсплыло няспешна
з лесу як з Храма

ідзеш на гару
на неба ўзыходзіш
каб толькі маці пабачыць

высахла вада
і ў кожным тваім слове
пясок магільны

капейка ў руцэ
грошы папяровыя
з лісцем узлятаюць
і не вяртаюцца

студня старая
нібы вежа
схавала сябе ў зямлю
ад сонца каб бачыць зоркі

ты малюеш сон
які сніцца бясконца
табе і Богу

ты малы як павучок
і малітва твая
зноў павуцінкай ляціць
з зямлі да неба

жыве свой Моцарт
тут у кожнай травінцы
і нас не чуе

ізноў упала знічка
бацькавай цыгаркай
з Вечнага Шляху
дзе бацька прыпыніўся

на дзідах травы
асіны спілаванай
чорнае і чырвонае лісце
падбіраеш чырвонае

падбіраеш каменьчыкі
каб кідаць у ваду
і глядзець
разыходзяцца кругі
як гадавыя колцы
у дрэве
якое ты пасадзіш

павуціны белыя ніткі
у куце святліцы
хвалішся золатам
а яно знойдзенае

праляцела пчала
ты глядзіш услед
і сонца заходзіць
мядовае

нехта пастукаў у дзверы
а ты нікога не чакаў
і рукою са стала
змятаеш хлебныя крошкі

кувае зязюля
ты лічыш да дзесяці
а хацелася да ста

сонца
залатое кола
коціцца па лёдзе нябёсным
а ты ляжыш на возе
як пшаніцу прадаўшы

ідзеш ідзеш ідзеш
і ніхто не кажа
дамоў вяртайся

у полі адзін
стаіш як слуп
што застаўся ад плота
які раней падзяляў поле

слухаеш старога
а ён глухі
кажа табе
што чуе
як шэпчуцца анёлы
у цябе за плячыма

сцямнела
нібы згасла сонца
і ты запаліў запалку
і вецер яе згасіў
сказаў хто тут галоўны

за вакном сарока
стракоча і стракоча
і ты ўсміхаешся
бо ты вярнуўся дадому

бліскавіца асвяціла Храм
і ты пабачыў Хрыста
і агеньчык свечкі затрапятаў
як матыль адзінокі

у кожнай кроплі мёду
ёсць сонца і сон
і дзень і ноч
а ты любіш віно
заўтрашняе

над заснежаным полем
поўня
апошні бохан

**У сінім свеце**

10—18. 03. 2016

сініца пастукала ў шыбу
і ты прачнулася
і неба было сіняе
як пад вокам-сонцам сіняк
і сіні трактар правёз праз двор
смецце ў сініх мяхах
падкідваючы над сабой
аблачынкі сіняга дыму
і ты надзела сінія джынсы
і пакінула сіні дом
як вялікі сіні карабель
які скамянеў і ўрос у зямлю
сінімі каранямі
тэлефонных

і электрычных дратоў
і ты пайшла ў сіні свет
у якім лётаюць
сінія матылі
як сінія анёлкі
дзе васількі не пустазелле
дзе квітнее лён
як сіняе мора
дзе ля сіняй бухты
сто гадоў стаіць паэт
і сінімі вачыма
глядзіць
на сінюю зорку
якая далёка-далёка
як той горад
дзе ў сініх панчохах жанчыны
болей не збіраюцца
і якім не цікава
што ты пакінула
свой сіні дом
каб любавацца сіняй далеччу
а потым пісаць вершы
пра сіні перыяд Пікасо
пра Сінія Воды
дзе цякла наша кроў
каб спакойна квітнелі
сінія касачы
і ў сіняй паштовай скрынцы
як сіняя перліна ў ракавінцы
ляжаў сіні гузік
які ты пакінула ў пад’ездзе
дзе сінія сцены
на якіх сёння ты напісала
што ты яшчэ вернешся
ты абавязкова вернешся
каб твае сябры
сінеючы ад холаду
у чаканні цябе
ніколі
ніколі не сталі блакітнымі

**Будуць заўсёды**

16. 06. 2015

мора
якое сталася кропляй
зорка
якая сталася кропкай
у вершы тваім
як у футарале з павуціны
будуць заўсёды пакуль
будзе верш
пра мора і зоркі
і бясконцае лета як неба

**Човен у вадзе**

9. 06. 2015

човен у вадзе
вада ў чоўне
і час спыніўся
як неба
дзе жыве святло
і няма былога
і няма будучыні
а ёсць вада
вечнасць
у чоўне з вадою

**Залатое і чырвонае**

4. 12. 2014

у нашай крыві ёсць золата
а ў золаце ёсць кроў
і плыве над намі сонца
створанае з золата і крыві
каб залатое і чырвонае
было з намі
як неба і зямля
паміж якімі мы
як паміж жорнамі
залатое
і чырвонае
дзе ў залатым ёсць чырвонае
дзе ў чырвоным ёсць залатое
і мы ідзем па пяску
па золаце
і ўсход перад намі чырвоны
як віно чырвонае
у залатым паціры

## Сташ на мосце

14. 11. 2014

сташ на мосце
як коска ў сярэдзіне сказа
які злучае берагі аркуша
дзе ты пачаў верш і кінуў
а пад мостам лёд
чорнае люстэрка
у якім адлюстроўваецца зіма
і ты п’яны
бо табе было сумна
сярод снегу і людзей
што не спыняюцца на мосце
які палубай карабля
ад якога і засталася толькі палуба
а ўсё астатняе сплыло
з вадой
з апалай лістотай
з часам
і ніхто не заўважыў карабля
што быў на Свіслачы
і толькі ты яго бачыў
і толькі таму што быў п’яны
як карабель п’яны
што выплыў з трубы
якой цячэ Няміга
і ўпадае ў Свіслач
і качкі ў вадзе
пасажыры што выжылі
з таго карабля
які быў п’яны

## Тралейбус не хоча лётаць

13. 11. 2014

тралейбус не хоча лётаць
ён трымаецца за драты
а ты б паляцеў
але за цябе трымаюцца бацькі
хоць табе ўжо дваццаць гадоў
як дваццаць кропляў валяр’янкі
каб не балела сэрца ў маці
якая не ведае
што ты кожную раніцу
у тралейбусе

які трымаецца за драты
едзеш на завод «Крышталь»
дзе твае сябры
для якіх ты Вожык
які вырасце і не будзе
пісаць оперу
а напіша «Чырвоны ліхтар»
і ў тваёй шклянцы віно
чырвоная раніца
і ты вып’еш яе да дна
і забудзешся што ты
павінен хавацца
ад савецкай улады
што хоча каб ты ваяваў у Афгане
і не трымаўся за жыццё чырвонае
як віно ў тваёй шклянцы
чырвонае
як сцягі
чырвонае
як снягі
і ляціць над горадам аўтобус
але гэта не твой аўтобус
бо ты ездзеш тралейбусамі
якія не хочуць лётаць

**Прыпынак**

9. 11. 2014

прыпынак прыпыняе непазбежнасць
але сонца ўзыходзіць і заходзіць
не спыняючыся
і няма знакаў прыпынку
як у белым вершы
на Шляху Млечным
і ніхто на ім не спыняецца
апрача нашых позіркаў
і ты стаіш на прыпынку
як на краі свету
і ты можаш яшчэ вярнуцца
пакуль ты на прыпынку
і ў кожнага будзе
свой прыпынак
калі спыніцца сэрца

## Аблокі

11. 10. 2014

аблокі
гэта нашыя слёзы
гэта нашая кроў
якой не хапіла месца ў зямлі
і плывуць па-над намі аблокі
як наша жыццё
праз якое нехта
не бачыць
ні сонца ні зорак
і сыплецца з аблокаў
то дождж то снег
змываючы нашыя слёзы
змываючы нашую кроў
аблокі гэта наша мінулае
аблокі гэта нашая будучыня
і сённяшні дзень
гэта воблака
на далані ў Бога
у якога ты вераш
калі табе цяжка
пад небам дзе аблокі
гэта нашыя слёзы і кроў
дзе жывуць грымоты
і маланкі

## Анёл з мокрымі крыламі

10. 10. 2014

анёл з мокрымі крыламі
не можа вярнуцца на неба
і ён не будзе вяртацца
бо яго там ніхто
не чакае
бо анёл самотны
як той чалавек
якога ён ахоўваў
падчас навальніцы
якая магла стаць
пачаткам новага патопу
калі б не гэты анёл
у якога цяпер мокрыя крылы
і вялікія як наша вера
у Бога і ягоных анёлаў

## Бабіна лета

9. 10. 2014

бабіна лета гэта тое
што мы прыдумалі
і яно ёсць як ёсць мы
і яго няма як няма нас
і ў бабіным леце
як з вулляў пчолы
залатая лістота
раіцца на дрэвах
каб паляцець да сонца
але яно ляціць на траву
у якой схавалася вада
што ўжо стала мёртвай
як неба без буслоў
дзе на павуцінках уночы
вісяць як залатыя кажаны
самотныя восеньскія зоры
якім усё адно
што мы прыдумалі
бабіна лета
і радуемся што нам цёпла
на сыходзе восені
якая пакідае нас усміхаючыся
і бабіна лета
гэта ўсмешка восені
якую мы любілі
болей чым сябе

## Балота Ліхамочча

4. 10. 2014

пойдзеш у балота Ліхамочча
і не вернешся
як не вяртаецца Сусанін
якіператварыўся ў корч
і стаіць сярод балота
як статуя балотнай волі
куды з неба сцякае вада
па прасторы як па шкле
у якое стукаюцца вятры
і разбіваюцца ў туман і снег
каб ты не ішоў у балота
шукаць журавіны
халоднае вуголле

у якім хаваецца лета
ад цябе і ад людзей
якія не баяцца Ліхамочча
бо яно прыдуманае імі
бо яно створанае імі
як казка
якая сканчаецца добра

## **Восень у Лошыцы**

2. 10. 2014

яблыкі ў траве
як вялікія багоўкі
якім не хочацца ў неба
бо ім добра тут
у парку ў Лошыцы
дзе ты ідзеш
сярод яблынь
як Адам у пошуках Евы
якую яшчэ не стварыў Бог
бо ён стварае Восень
і падае лісце
табе пад ногі
як крылле баговак
што даляцелі да сонца
і сталі восеньскім сонцам
якое плыве над светам
самотнае як купал Храма
што патануў у вечнасці
якая стала ракой
дзе сёння адлюстроўваецца
Восень у Лошыцы

## **Жывеш тут спакойна**

30. 09. 2014

жывеш тут спакойна
і раптам
табе хочацца ў грыбы
у лес
дзе ты даўно не быў
цэлую вечнасць
якая ў расінцы вісіць
на адзінокай павуціне
сярод пажаўцелай травы
праз якую сцяжына

цячэ ў бярэзнік
дзе ў хвалях лістоты
самота і радасць
светлыя
светлыя
як тваё жаданне
выбрацца ў грыбы
нібы ўголас прызнацца ў любові
шэраму павучку
што на лістку бярозавым
на залатым чоўне
плыве
праз туман
як праз пачатак эпохі
у якой абавязкова будзе
грыбное стагоддзе

**Балоты**

29. 09. 2014

балоты прыйшлі
з неба
каб нас ратаваць
ад саміх сябе
сваім журботным спакоем
сваімі соннымі туманамі
дзе жывуць прывіды
белыя і чорныя
і хаваюцца ў травах рудых
як у атравянелым агні
да пары да часу
пакуль ты сядзіш
дома
і чакаеш
восені
калі зайцы на балотных астравах
пачнуць варыць піва
дадаючы ў яго журавіны
чырвоны бурштын
у якім жыве святло
далёкіх зорак
з якіх да нас
прыйшлі балоты

**Узлёт**

29. 09. 2014

усе дрэвы мараць
узляцець у неба
але іх трымаюць за карані
сляпыя краты
што не сябруюць з птушкамі
якім дрэвы дазваляюць
жыць у сваіх кронах
і апавядаюць птушкі дрэвам
якое яно неба
і ўсё ж у многіх дрэў
спраўджваюцца мары
хоць дымам даляцець да зорак
калі прыходзяць дрывасекі
і дрэвы становяцца дровамі
і ты глядзіш на дым
які даляцеўшы да неба
зноў становіцца лесам
белым белым белым
як у цябе за вакном
калі ты ўзімку сядзіш
каля каміна дзе гараць дровы
што нядаўна былі дрэвамі
якія марылі пра ўзлёт

**Паплавы**

29. 09. 2014

сонца сталася белым
і над паплавамі плыве
быццам пятак ледзяны
што злеплены з туману
на поплаве дзе пасвяцца коні
каля адзінокага дрэва
дзе будзе першы прыпынак восені
якая ўжо ідзе поплавам
босая як мастачка Алена Кіш
каб гледзячы ў ручай
бачыць мора
з якога ўзыдзе сонца
і яно будзе чырвоным
як вялікі яблык
што ляжыць у траве
і яго ніхто не бачыць

апрача цябе
бо ты паклаў яблык для Алены Кіш
ходзячы восеньскімі паплавамі

**Час**

29. 09. 2014

мы жывем у нашым часе
як цвікі ў дошках
з якіх зладжаны будынак
праз які пралятаюць вятры
бо ў будынку выламаныя дзверы
якімі можна было адгарадзіцца
ад чорнага свету
ад туману на пачатку дня
дзе расце трава
як зялёная вада
што працякае праз будынак
і кліча нас за сабою
але мы цвікі
у дошках нашага часу
і нам добра тут
і нам самотна тут
у нашым будынку
які мы збудавалі
думаючы пра лесвіцу
у неба да сонца
якога няма
бо яшчэ не прыйшоў час
каб мы яго пабачылі

**Апошні прамень**

28. 09. 2014

апошні прамень залаты
як апошні грош
і ён тая сцяжына
якой у неба вяртаюцца
анёлы што стаміліся
лётаць па-над намі
па-над нашымі будынкамі
дзе дошкамі забітыя вокны
дзе зафарбаваныя дымам зоркі
каб неба не бачыла
што ў травяным палоне
наша мінулае

дзе апошні прамень
апошні шанец
успомніць
што ёсць сонца
якое ніколі не заходзіць

## Амаль на краі Еўропы

25. 09. 2014

амаль на краі Еўропы
але не на краі свету
Сербія
я ў думках быў
у тваіх Храмах
куды вядуць усе дарогі
я ў мроях хадзіў
па тваіх палях і лясах
дзе валуны ў траве
падобныя да шаломаў вояў
якія баранілі Айчыну
я ў снах піў тваё віно
горкае і салодкае
у якім святло і цемра
якія пераплецены
як лёсы людскія
я сэрцам спяваў тваe песні
у якіх Вера Надзея Любоў
я ніколі не бачыў
тваіх рэк і азёр
але я добра ведаю
што ў іх адлюстроўваюцца
усе зоркі Млечнага Шляху
якім ідуць нашы продкі
да Бога
які разумее
і сербаў і беларусаў
і белыя і чорныя буслы
як белыя і чорныя дні
у нашых лёсах
у нашых слёзах
у нашай славянскай крыві
дзе жыве сонца
дзе жыве вечнасць

у якой была ёсць
і будзе Еўропа
пакуль будзем МЫ

## Верасень у Заслаўі

26. 07. 2014

касцёл і царква
трымаюць неба над Заслаўем
дзе рэшткі замка старога
сярод травы
як рэшткі летапісу
сярод попелу

валуны як мінулыя стагоддзі
ляжаць у падмурках
старых і новых дамоў
з вокнаў якіх
бачыцца будучыня
як сонца
якое залежыць ад нас
і ад валуноў
якія ў нашых падмурках

вада ў рацэ светлая
і бясконцая як вечнасць
і бярозавы лісток на вадзе
як ліст ад Рагнеды
плыве
асвятляючы берагі
на якіх Беларусь

у школу ідуць дзеці
вясёлыя і прыгожыя
і лісце пад іх нагамі
як залатыя пыркі
вераснёвай раніцы
дзе вераснёвае сонца
як верасовы мёд
што сабралі заслаўскія пчолы

я прыйшоў у Заслаўе
каб быць у цэнтры верасня

каб быць у цэнтры свята
каб быць у цэнтры
каб быць

**Ён адмовіўся**

25. 06. 2014

ён адмовіўся ад знакаў прыпынку
ён адмовіўся ад рыфмаў
як адмаўляюцца ад вёслаў
а потым і ад чоўна
каб плыць у вадзе
і разам з вадою
а не па вадзе
каб быць у вершы
а не па-над вершам
як па-над вогнішчам
да якога злятаюцца матылі
і згараюць
не помнячы чаго яны ляцелі
адмовіўшыся ад зорак
якія былі па-над імі

**Ты ў сне**

16. 06. 2014

ты ў сне пераходзіш
праз Лету
нібы чарапаха праз лета
дзе сонца
як прыклееены мядзяк
на ілбе ў бясхмарнага анёла
які ляціць над зямлёй
дзе ўсе на яго спадзяюцца
а ты спіш
і ў сне пераходзіш
праз Лету
як праз Альпы
дзе снег і лёд
як вечнасць
у якой застаюцца героі і баязліўцы
засынаючы на хвіліну бясконцую
ці падаючы ў белую прорву
дзе жыве рэха
якому ўсё адно хто яго абуджае
на шляху

дзе ты пераходзіш Лету
на краі белага свету
на краі белага снегу
на краі белай ночы
дзе жыве паэзія
няспешная як чарапаха
і ты прачынаешся
каб нічога не ўспомніць

**Па Свіслачы**

16. 06. 2014

па Свіслачы плывуць мёртвыя
кажаш ты
гледзячы на ваду
на якой я нічога не бачу
апрача апалай лістоты
і дзікіх качак
а ў горадзе восень
як канец зялёнага свету
і плыве па Свіслачы
лістота
як абгарэлы летапіс
пра бітву на Нямізе

**Калі перагараюць лямпачкі**

15. 06. 2014

калі перагараюць лямпачкі
калі перагараюць нервы
ты ўспамінаеш што ты адзін
як лямпачка
якая яшчэ не перагарэла
якая вісіць над табою
як застылая кропля шкляная
што працякла праз столь
з памяшкання дзе ніхто не жыве
бо там даўно перагарэлі ўсе нервы
і ўсе памерлі як у канцы свету
якога яшчэ не было
і які ўжо даўно быў
але яго ніхто не заўважыў
бо перагарэлі лямпачкі
бо перагарэлі ўсе нервы
а ты ўсё яшчэ жывы
як лямпачка ў моргу

## Плот

13. 05. 2014

плот гэта ахоўнік
яго паставілі і ён стаіць
і кожны хто праходзіць міма
стараецца зазірнуць за плот
плот гэта драбіна
якой спускаюцца ва ўласнае Я
абмяжоўваючы сябе ў прасторы
але ў плоце заўсёды ёсць вароты
як зварот у свет
дзе ёсць дарога
якая ўцякае ад платоў
плот гэта нашыйнік
на шыі майго жыцця

## Заснеш і не прачнешся

20. 02. 2014

заснеш і не прачнешся
разам з сонцам
якое чырвонае як кроў
з адсечанай галавы пеўня
што пабудзіў новы дзень
у якім яго ўжо не будзе
як і цябе
бо ты заснеш і не прачнешся
каб ісці на працу
ты прачнешся заўтра
якое ўжо не будзе заўтрам
як не будзе дажджу
бо не будзе аблокаў
на якіх ты заснеш
каб прачнуцца сярод лета
дзе ў кожнай кветкі
ёсць свая пчала
што не дасць табе заснуць
стукаючыся аб шыбу вакна
за якім зоркі
як кроплі мёду
з якіх анёлы злепяць сонца
залатое сонца
а не чырвонае
і ты прачнешся каб сказаць
усё будзе добра

## Хутар

15. 02. 2014

хата стаіць каля лесу
гэта калі ў гэтай хаце ты не жывеш
лес расце каля хаты
гэта калі ты ў гэтай хаце гаспадар
і я іду на дзедаўскі хутар
якога даўно няма
а на ягоным месцы
стаіць велізарная цыстэрна з бензінам
які начыма крадуць вяскоўцы
якіх сагналі з хутароў
нібыта выдзерлі з зямлі сад
і ссунулі бульдозерам у купу
і гэтая купа зямлі
травеючы прарастае кустамі
якія ўвесну квітнеюць
на тым месцы дзе быў хутар
у якім жылі гаспадар і гаспадыня
і я прыходжу да роднага хутара
якога даўно няма
і стаіць перада мной
велізарная цыстэрна з бензінам
магчыма там бензіну ўжо няма
як і няма таго часу
які ўсё і ўсіх ссоўваў у купу
каб не было хутароў
каб не было гаспадароў і гаспадыняў
і я сам пачуваюся хутарам
у якім жыве беларуская мова

## Рэха

12. 01. 2014

паміж альфай і амегай
рэха
як паміж зямлёй і небам
павуцінка
якая плыве па хвалях ветру
з вясны праз лета ў восень
і становіцца першым снегам
не кожны бачыць яе
як не кожны чуе рэха
жывучы ў рэху бы ў граху
і не з кожнага нараджаецца рэха

Сцяжыны,
якія
не
забываюцца

як з каменя вада дзе жыве рэха
якое камянее і рассыпаецца ў пыл
у плач у смех у святло
і далятае да нас
бо мы рэха ад Адама і Евы
і мы блукаем па свеце
як у лабірынтах Мінатаўра
дзе нітка Арыядны
як рэха
і ў нашых вачах нараджаюцца не слёзы
а птушкі празрыстыя
якія выносяць з глыбіняў душы рэха
таго што было што ёсць што будзе
як сонца
як поўня як зямля
якія існуць толькі таму
што ўсё гэта рэха народжанае Богам
дзе няма ні альфы ні амегі
а ёсць толькі
РЭХА

## **Калі сонца не будзе**

11. 02. 2013

калі сонца не будзе
ты намалюеш
сонца ў небе
памадай
якой падмалёўваеш вусны
і светла будзе
ад намаляванага сонца
бо гэта ты намалюеш
сонца
і сонца асвеціць шлях
па якім да цябе ісці з просьбай
каб ты намалявала
вецер
які разгоніць хмары
за якімі Божае сонца
як люстэрка
у якое ты штораніцу глядзішся
падмалёўваючы вусны
як сонца на сваім целе

**Засыпана снегам дарога**

11. 02. 2013

засыпана снегам дарога
і можна ісці дзе хочаш
не баючыся патаптаць газоны
і ты ідзеш па цаліку да могілак
дзе пад снегам і зямлёй
ляжаць твае бацькі
у цэнтры Еўропы
у цэнтры твайго жыцця
дзе сарцавіна пазначаная крыжам

**З тваіх вачэй выпаўзаюць**

10. 02. 2013

з тваіх вачэй
выпаўзаюць
празрыстыя жучкі
я ведаю што гэта слёзы
але ты кажаш
што ты не ўмееш плакаць
і таму з тваіх вачэй
выпаўзаюць празрыстыя жучкі
у якіх век кароткі
як твае вейкі
якія ты сёння не пафарбавала
і таму твае слёзы
як празрыстыя жучкі
падаюць бо не ўмеюць лётаць
у гэтым свеце
ад якога жывая душа
схавалася ў табе
як чарвяк у яблыку
які ўпаў на зямлю

**Матыль**

12—13. 01. 2013

матыль гэта вечнасць
якая стала матылём
і ты бегаеш за ім прыгожым
каб злавіць яго
і прыкалоць іголкай
да фанеры
якая адлятала сваё над Парыжам
дзе ты ўсё-ткі быў
дзе голкай Эйфелевай вежы
неба зорнае прыколатае

як матыль
да чаго прыколатае
ты не ведаеш
бо ты не ведаеш мовы
на якой можна спытацца
і ты сам як матыль
лётаеш пакуль лятаецца

матыль гэта попел
ад знічкі што ўпала
у жывую ваду

матыль гэта агонь
ад якога саграецца душа
на які можна глядзець бясконца
і радавацца жыццю
якое кароткае
як палёт матыля над агнём

матыль гэта кропля вады
якая стаўшы крылатай
ляціць ад кветкі да кветкі
і раздае сябе кветкам
каб ім не сумна было
сярод мора травы
дзе ёсць востраў
на якім жывуць матылі
як анёлы

матыль гэта нявыдзейсненая мара
з твайго маленства
яна з'яўляецца нечакана перад табой
і знікае
і лётае ў тваёй галаве
як у слоіку
у які ты лавіў матылёў

матыль гэта кветка
з невядомай магілы невядомага воя
і яна лётае над полем

якое не змог перайсці вой

матыль гэта пацалунак
першы і апошні
і б’ецца матыль
аб шкло ў тваім пакоі
і ты выпускаеш яго на волю
застаючыся першым і апошнім
для матыля
хто яго зразумеў

у кожным з нас
жыве матыль
які паляціць да Бога
калі мы памром
і ўсё апавядзе пра нас

матыль гэта вечнасць
якую ты злавіў
як матыля
і ён залежыць ад цябе
як і ты залежыш ад яго
і цяпер паміж табой і Богам
толькі адзін матыль
і ён гэта ты

**Чарнобыльская малітва мастака**

10. 01. 2013

пасля 26 красавіка 1986 года
малюючы мастак не малюе
мастак моліцца
і ў кожнай кропельцы фарбы
жыве ягонае слова
ягоная малітва
да нас і да Бога
і сонца што ўзыходзіць з туману
як з белай вечнасці
якой мы не ведаем
асвятляе крыжы на Храмах
і на магілах
і кожную травінку
і кожную пылінку

і вецер не гасіць свечкі
свечкі становяцца ветрам
які здзірае павуціну
і вымятае смецце з нашых душаў
з нашай памяці
вялікай як наша зямля
і як неба над намі
дзе зоркі гараць як свечкі
на полі якое перайшлі
нашы продкі
і ноч змяняецца днём
і знікае тое
што павінна знікнуць
і з’яўляецца тое
што павінна з’явіцца
і агонь гарыць у вадзе
і вада гарыць у агні
бо мастак моліцца фарбамі
у сваёй майстэрні
як у Каўчэгу
які плыве над горадам
і над усім светам
пад белымі ветразямі аблокаў
і лятаюць над ім чорныя анёлы
якім не хапіла белай фарбы
пасля Чарнобыля
які стаў краем белага свету
з якога відаць прорва
чорная чорная чорная
як вугаль
у руках Бога
якому мастак моліцца
каб сонца жытнёва ўзыходзіла
не толькі на яго карцінах

## Жоўты, жоўтае і залатое

9. 01. 2013

штовосень белы свет
на нейкі час робіцца жоўтым
як палітра мастака
які не малюе чорныя квадраты
а які любіць сланечнікі

і дзьмухаўцовыя лугі
жоўтыя як Жоўтае мора
якое выйшла з кітайскіх берагоў
і затапіла па жоўты ўзровень
наш адзінокі белы свет
дзе жоўтыя дзюбы ў птушанят
дзе кураняты жоўтыя
як коцікі вярбовыя
жоўтыя жоўтыя жоўтыя
над чорнай зямлёй
дзе жоўты пясочак
як залаты
як залаты пясочны гадзіннік
для якога няма залатога ланцужка
і ўсё залатое жоўтае
і жоўты балонік ляціць у неба
і знікае сярод зорак
а магчыма там ужо і не зоркі
а жоўтыя балонікі
якія раз-пораз лускаюць
ад холаду і падаюць знічкамі
у залатую арду лістоты
з якой змагаюцца дворнікі
у жоўтай вопратцы
і ты ідзеш у Катэдру
якую ты памятаеш яшчэ жоўтай
а цяпер яна белая
як снег што не растае
у якім жоўтыя агеньчыкі свечак
залатыя коскі
у сказах пра жыццё і смерць
дзе смерці няма
і ўвечары жоўтыя ліхтары каля Храма
як залатыя душы мінчукоў
слухаюць залатыя словы Бога
і ты ідзеш у жоўты тралейбус
як у жоўтую падводную лодку
якая плыве ў акіяне ночы
сярод дамоў як рыфаў
дзе ёсць жыццё там

дзе жоўтыя вокны
дзе ў жоўтым доме
ты нарадзіўся даўным-даўно
калі ў святлафора
гарэла жоўтае святло
і не было яшчэ вядома
будзе далей зялёнае ці чырвонае
і жоўтыя таксоўкі
як гарадскія анёлы
развозілі ўсіх туды куды хто хацеў
а ты плыў у жоўтай падводнай лодцы
і слухаў восеньскую музыку
чорна-залатой лістоты
якая магла паляцець да сонца
але абрала зямлю
дзе ёсць жоўтыя фарбы
дзе ёсць жоўтая прэса
дзе з кропелек мёду
і жаўткоў курыных яек
зьлепленае тутэйшае сонца
жоўтае жоўтае жоўтае
як вялікі жоўты кубак
дзе запараныя зёлкі
ад жоўтай ліхаманкі
і ляжыць на маім стале
жоўты лімон
як вялікая жоўтая кропка
якой сёння пазначаны
цэнтр жоўтага свету
які пачаўся з першага жоўтага лістка
што праляцеў праз тваю душу залатую
як праз жоўтую

## Комін

10. 12. 2012

комін заўсёды на вышыні
бо ён комін
бо ён дае волю дыму
бо ён дыхае небам
бо ў ім грэюцца вятры
і ён добры
хоць нутро ў яго чорнае

## Белы і белае

29. 11. 2012

калі ствараўся белы свет
Бог быў у белай вопратцы
з белых аблок як з воўны
сшытай белымі ніткамі
і белыя анёлы назіралі
з белай зайздрасцю
як творыцца дабро
белае як белы свет
у якім белыя галубы
як сімвалы міру
ляцелі над белым морам зімы
дзе ўсё белае як папера
на якой яшчэ няма белых вершаў
і белага Біма з чорным вухам
і сарокі-белабокі
якая кашку варыла
і дзетак карміла
і белы воўк ішоў па снезе
а ты курыў Беламор
і не думаў пра белыя тапкі
і пра белыя халаты
маючы белы білет
ты быў як белая варона
якая заляцела ў рэстарацыю
дзе чорны раяль
як мурын з белазубай усмешкай
стаяў моўчкі на сцэне
чакаючы белых людзей
што ішлі праз завею
не заходзячы ў рэстарацыю
баючыся белай гарачкі
ад белых грыбоў
змешаных з белымі паганкамі
на белых талерках
як на белай лістоце
белага дрэва якое існуе
як белыя пялёсткі рамонкаў
што на белым падваконні
у белым доме ля сіняй бухты
дзе ты паміраеш на белым ложку

у белай вышыванцы
а за вакном белыя аблокі
як белы пух тапалёвы
белы белы белы
як белыя коні
белыя валасы
белыя рукі
белыя ручнікі
белая пена хваляў
што б'юцца аб белы бераг
дзе жоўты пясок стаў белым
як соль
па якой Радзівілы едуць
на мядзведзях у свой палац
праз белы бярэзнік
у Беларусь
у якой жыве Бог
які аддзяліў белае ад чорнага
і цябе запрашае дзяўчына
на белы танец
белы белы белы
як ветразь у моры
як белы вецер
белы туман
белы сон
што сніўся паэтцы
калі цвіў белы бэз
калі былі белыя ночы
але яны не нашы
як і белыя мядзведзі
пабачыўшы якіх ты не збялееш
і не падзярэцца белая павуцінка
на якой трымаецца сонца
што заглянула і ў наша ваконца
дзе белы заяц з Караткевічам
вараць белае піва
белае
белае
белае
як белы свет

## У майстэрні

20. 02. 2012

у майстэрні жывуць фарбы
і калі цябе няма сярод іх
яны самі ствараюць свет
прыгожы і страшны
вясёлы і сумны
каляровы і шэры
і чым ты даўжэй не вяртаешся
тым больш фантазуюць фарбы
і кожная мяркуе
што яна самая галоўная
як нядаўна для іх быў ты
аднойчы ты не вернешся зусім
і фарбы памруць таксама
але толькі на імгненне
пакуль не ўзыдзе сонца
з цюбіка небакраю

## Час

10. 05. 2011

у кожнай травінцы
трапеча агонь
і вецер яго раздзімае
і пыл узлятае як дым
і ты стаіш у высокай траве
як на вогнішчы інквізіцыі
і падаюць з неба зоры
і падаюць з дуба жалуды
а па рудой травіне паўзе
багоўка
як кропля крыві
па ржавым лязе нажа
у забойцы часу
ад квецені садоў
павар'яцелі пчолы
і ты ідзеш праз сад
нібыта праз пажар
дзе попел апалых пялёсткаў
сумны як падраныя вершы
пра шчаслівае каханне
у прыцемках вячэрніх
перад Катэдрай
ліхтары

ці грэшныя душы
і Няміга ў трубе
як святло ў тунэлі
каля дарогі дахаты
з абрэзанымі кронамі дрэвы
як згаслыя свечкі
і час растае
нібы лёд
што сёння падзяляе
ваду
і неба
і ты ідзеш па лёдзе
па часе
які спыніўся

**Карані**

5. 03. 2011

карані змеі
звязаныя ў адно цэлае хвастамі
распаўзаюцца ў падземным свеце
ва ўсе бакі свету
у пошуках сэнсу жыцця
і яны нястомныя
прагныя і ўпартыя
іх вымываюць рэкі
іх разразаюць плугі і рыдлёўкі
а яны паблісквают на сонцы
сваімі гнуткімі целамі
зноў імкнуць у цемру зямлі
дзе па цёплым пошуме траў
пазнаюць вясну
па злосным посвісце завей зіму
і чым глыбей распаўзаюцца карані
тым вышэй дрэва ўздымае крону
і вецер не паваліць дрэва
і толькі маланка
закахаўшыся ў дрэва
загубіць дрэва
але не карані
якія маланкай падземнага свету
дадуць святло
новаму дрэву

**Перадзім’е**

11. 10. 2010

белая хмарка
як па лёдзе першы снег
слізгае ў небе

жоўтае лісце
плыве па чорнай вадзе
і ў Млечным Шляху

ля ганка ў траве
кошыкі з яблыкамі
з золатам гнёзды

**Восеньскае**

14. 10. 2010

хмары як воўна
і як стрыжаны баран
у полі валун

ля стога дрэмлюць
як мышы палявыя
рудыя лісты

вецер злуецца
а дымок ад вогнішча
вучыцца ўзлятаць

**На могілках
у Гарошкаве**

15. 10. 2010

жолуд без шапкі
у першай сівой траве
Толіка Сыса

у келіху ліст
манетай залатою
на дне
сусвету

карэнняў вужы
у пяску як у агні
труну трымаюць

тут чужых няма
і ўсё-ткі крумкач сівы
крыжы вартуе

Раса,
якая
не
высыхае

гронкі рабіны
як сонныя багоўкі
чакаюць сонца

п’е чорны мураш
на агарачку свечкі
расу
як неба

на крыжы паэта
павуцінка трапеча
як апошні верш

**Дарогаю з Дубраў**

19. 11. 2010

грукочуць колы
нібы забіваюцца
у лета дзверы

лісток зжаўцелы
на вакне электрычкі
як пацалунак

маланкай з зямлі
ля дарогі ў тумане
чорнае дрэва

на ўзгорку стажок
у якім днююць зоркі
сонна дыміцца

ля студні ў лузе
глядзіць электрычцы ўслед
белы жарэбчык

**Зімовае**

21—24. 12 .2010

у белым полі
як у цэнтры сусвету
прыдарожны крыж

маленькі прывід
па заснежаным полі
ідзе чалавек

чорныя хаты
рассыпаным
вуголлем
на небакраі

ля могілак дуб
стаіць з лістком апошнім
нібы са свечкай

на возеры лёд
велізарным люстэркам
для поўні соннай

іду праз вёску
услед брэшуць сабакі
зіму вартуюць

чорны яблык
нібы змерзлая зорка
на сцежцы ў садзе

вецер ці ваўкі
завываюць у цемры
бы ў чорным лесе

на дрэвах шэрань
нібы квецень першая
у новым годзе

салома ў снезе
як золата ў малацэ
Млечнага Шляху

іерогліфы
ці птушыныя сляды
у лёдзе белым

вавёрка сонцам
мільгнула ў белых кронах
нібы ў аблоках

вядро ля студні
на ланцугу сумуе
даўжэзным як ноч

у снезе скрыня
як карабель што тоне
у моры белым

трава сухая
як шызы замерзлы дым
імкнецца ў неба

завея ў полі
адзінокае дрэва
маланкай чорнай

звіняць шаргунцы
цукерка нібы кветка
на санным следзе

скача сарока
холадна ці ўспомніла
дзе многа ежы

**Зімовае**
**неба**

7. 02. 2011

нібы лесвіца
па якой лазілі ў неба
чыгунка ў снезе

белая поўня
ляжыць
снежкай прымерзлай
на лёдзе неба

вароны ў небе
як попел рукапісаў
з трыццаць сёмага

**Вечаровае**

15. 09. 2011

стаіць на ўзгорку
вялікі драўляны крыж
як на Галгофе

ігруша ўпала
і пчолы па-над ёю
нібы анёлы

поўня белая
адзінокі дзьмухавец
у чорным полі

**Апалае лісце**

17—23. 09. 2011

над жоўтым лісцем
як над разбітым сонцам
пчала лётае

апала лісце
у брудных чаравіках
няма куды стаць

на дне калюгі
нібыта купал Храма
бярозавы ліст

**Вясновае**

14. 04. 2012

белая квецень
на чарнюткіх галінах
будучы попел

над дзьмухаўцамі
пчала праляцела зноў
нібы сляпая

**Могілкі**

22. 09. 2013

старыя крыжы
драбінай зламанаю
пад чорным лісцем

помнік з граніту
як вечнасці чорны лёд
з зямлі прабіўся

Раса,
якая
не
высыхае

старыя вянкі
ляжаць
каля сметніцы
сваё аджылі

## Восеньскае

7. 12. 2014

лісце бярозы
сыплецца і сыплецца
нібыта пясок

сохне ў пакоі
купал тваіх нябёсаў
чорны парасон

цвікамі зорак
прыбіта да вечнасці
над вёскай неба

## Дарога дамоў

4. 02. 2015

снег як белы мох
на крыжы прыдарожным
распяцця няма

сухі дзядоўнік
каля сцежкі праз поле
чакае вясну

на снезе сляды
ці сабакі ці ваўка
вёска далёка

салома ў снезе
як залатыя ніткі
што восень прала

дрэвы чорныя
як намаляваныя
на шэрым небе

вёска на ўзгорку
сцежкамі
з комінаў дым
да зор імкнецца

родная хата
замок на дзвярах вісіць
як лёд счарнелы

заходжу ў хату
на стале збанок стары
а ў ім спіць павук

**Самотнае**

10. 05. 2015

аджыў у хаце
вялікі чмель пачуўшы
нашы галасы

старое лісце
на дзідах травы ў садзе
чакае ветру

ночвы з вадой
як човен адзінокі
што стаў ночвамі

**Белы
дзень
Караткевіча**

22. 11. 2017

едзем і едзем
на ўсход а сонца няма
туман стаў снегам

у Воршу едзем
у дом Караткевіча
там вершы жывуць

усё белае
гэта пад снегам
зямля
Караткевіча

у Воршы снежна
чырвоная рабіна
сонца паэта

белая котка
у дом Караткевіча
забегла першай

Раса,
якая
не
высыхае

сярод музея
вялікі белы ветразь
і кнігі ў чоўне

сякеры мячы
і побач аўтаручка
Караткевіча

з Воршы дадому
еду з Караткевічам
светла і цёпла

## У Ракуцёўшчыне

24. 07. 2018

васількі ў жыце
пырскамі сіняй фарбы
з майго маленства

Ракуцёўшчына
юнак глядзіць
у неба
як Багдановіч

на мокрым кусце
пасля начнога дажджу
матыль як кветка

## Зноў восень

3—15. 08. 2018

вялікі яблык
а ў ім паўнютка святла
з роднага саду

купы лістоты
восеньскія вулканы
спяць сярод сквера

лісце на вадзе
ізноў плыве ў акіян
стаю на мосце

на павуціне
на пасівелым промні
гушкаецца ліст

вецер у скверы
перабірае лісце
да зімы ёсць час

**Праз лета**

11. 11. 2018

у вядры з вадой
жоўты бярозавы ліст
мама прынесла

сярод возера
як кветка што адцвіла
зялёны човен

прысела чайка
на зашклёны хмарачос
як на iльдзiну

ружавее ўсход
сланечнік пачарнелы
стаіць ля плота

цёмна на дварэ
дастаю акуляры
каб зоркі шукаць

лісток на рацэ
яшчэ амаль зялёны
плыве праз лета

вада цёплая
у возеры ўтравелым
купаецца ноч

птушкі спяваюць
і лятуць на луг пчолы
там копы стаяць

пух дзьмухаўцовы
нібы ранішні туман
стаў дзьмухаўцамі

Раса,
якая
не
высыхае

іду праз туман
на ўзгорку
купал Храма
ці сонца ўзышло

## Да Багушэвіча

29. 06. 2019

еду ў Кушляны
за спінай плыве сонца
светлы небакрай

Ракаў могілкі
там бацькі спачываюць
я ў думках з імі

Каля дарогі
бачу сябе малога
з кошыкам грыбоў

паспела жыта
коршакі на валунах
як вартаўнікі

рэчка Крыўлянка
за лесам Крэўскі замак
сцяжына ў жыце

конь на ланцугу
пасвіцца сярод кветак
белых чырвоных

цвіце бульбоўнік
бабуля ірве траву
гуляюць дзеці

каля касцёла
ксёндз палівае кветкі
высока сонца

буслы над намі
Жупраны
Багушэвіч
верш як малітва

еду з Кушлянаў
гамонім і спяваем
усе як радня

## Змест

### Сонца, якое не заходзіць



### Музыка, якая не заціхае

**Сцяжыны, якія не забываюцца**

Шніп, В. А.

Ш77 Белае, чорнае і залатое : кніга паэзіі / Віктар Шніп. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2020. — 159 с.

ISBN 978-985-02-1974-9.

Кніга «Белае, чорнае і залатое» складаецца з чатырох раздзелаў. У першым — вершы пра гісторыю Беларусі, пра людзей, якія сталі нашым гонарам (Францішак Скарына, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч і інш.). У другім — творы, у якіх жыве музыка ветру, вады, травы і дрэў. У трэцім — белыя філасофскія вершы. У чацвёртым — хоку. І ўсё ж, пра што кніга? Пра тое, што было, што ёсць і што будзе. Белае — гэта чыстая папера, зіма, кужаль... Чорнае — гэта зямля, ноч, вуголле... Залатое — гэта спелае збожжа, зоры, пясок... У белым ёсць чорнае, а ў чорным ёсць белае, і ўсё гэта знітаванае залатым...

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5

Літаратурна-мастацкае выданне

ШНІП Віктар Анатольевіч

БЕЛАЕ,
ЧОРНАЕ
І ЗАЛАТОЕ

Кніга паэзіі

Рэдактар А. В. Спрынчан
Мастацкі рэдактар Н. В. Барай. Тэхнічны рэдактар Л. І. Астрэйка
Стылістычны рэдактар Ю. В. Тыркіч
16+
Падпісана да друку 21.01.2020. Фармат 60×90 1/16. Папера крэйдаваная.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 10,0. Ул.-выд. арк. 8,72.
Тыраж 500 экз. Заказ

Выдавецкае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 1/5 ад 09.07.2013.
Пр-т Пераможцаў, 11, 220004, Мінск.
www.mastlit.by; e-mail: mail@mastlit.by

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 10.09.2018.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, Мінск.